# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

№ 4-5 КАСТРЫЧНІК—СЬНЕЖАНЬ 1938 г. ГОД III



ЖЫЦЬЦЁ ПЁТР СЯРГІЕВІЧ

# БЕЛАРУСКІ ЛЕТАПІС

**КУЛЬТУРНА-ГРАМАДЗКІ і ЛІТАРАТУРНЫ МЕСЯЧНІК**

**№ 4-5 КАСТРЫЧНІК — СЬНЕЖАНЬ 1938 г. ГОД III**


МАКСІМ ТАНК

## ЛІТАРАТУРНЫ МАЛАДНЯК І КРЫТЫКА

Трэба і адначасна цяжка сяньня гаварыць аб беларускай літаратуры. Зацікаўленьне, адгалосы, якія яна будзіць у галоднай масе, тыя шырокія кругі ўплыву, якія пакідае на безбярэжным моры жыцьця,— гавораць аб патрэбе шырэйшага яе пазнаньня. Бязумоўна, што гэта ня лёгкая задача, калі возьмем пад увагу і часы, і магчымасьці нашай прэсы, каторая, з аднаго боку з незалежных ад яе прычын, ня можа даць поўнага вобразу, а з другога — ня толькі тэхнічна, але ідэёва ня ў сілах ахапіць нават усяго беларускага літаратурнага фронту па гэты бок Рыскай мяжы. Таму зразумелым ёсьць адсутнасьць выробленага пагляду і здаровай крытыкі ў большасьці нашага грамадзянства, а нават у інтэлігенцыі. Бо ня можна браць пад увагу тыя водзывы, „крытычныя“ нарысы, якія ледзь не пэрыёдычна паказываюцца на старонках літаратурных і нелітаратурных часапісаў, аб тым ці іншым аўтары, — водзывы людзей далёка стоячых ад нашай маладой літаратуры, або людзей яе не разумеючых, або — яшчэ горш! — людзей, якія лічаць сябе ўпаважненымі накіроўваць усю нашу творчасьць на свае вузкія, зарошшыя чортапалохам сьцежкі!

Можа ніколі мы так не адчувалі патрэбы яснага пагляду ў парушаных справах, а перадусім праўды, нават калі-б яна была і балючай. Даўно ўжо чуем аб зруху, аб росьце нашых літаратурных сілаў, аб сонечных пэрспэктывах... *Дык у чым-жа сутнасьць ажыўленьня, што яго выклікала, якія яго аб'емныя і дадатнія рысы, і якія магчымасьці існуюць перад намі?*

Нашыя паваенныя пісьменьнікі, нягледзячы на вялікія навакольныя перамены, спачатку прабавалі ўскрасіць нашаніўшчыну, і раз дваццаць прайшоўшы шлях ад гістэрычнага оптымізму да „чорных начэй“ затрымліваліся ў тупіку. І зразумела. Большасьць рэкрутавалася з мяшчанства, або знаходзілася пад яго уплывам (у гэтым выпадку не канечна толькі пад уплывам беларускага мяшчанства). Калі лепш прыгледзімся да творчасьці, убачым, што гэтая большасьць і найменш была зацікаўлена тым, чым жылі масы, ня гледзячы на тое, што любіла паезьдзіць на коніку „народ“, „свабода“, „барацьба“, „адраджэньне“. Яны толькі коўзаліся па паверхні чорнага лёду, які пакрываў зямлю, баючыся глянуць у тоні жыцьця, і не маглі чуць звону крыніц, якія набухалі пад лёдам і дзе-нядзе ўжо прабіваліся. Прадстаўнікі 20—30-ых гадоў манэўравалі пад штандарамі, пад каторымі не маглі і ня думалі ісьці. Кон'юнктуральна былі яны „бунтарнымі“, „пралетарскімі“ напалавіну „футурыстычнымі наватарамі“ і „сялян-

скімі паэтамі-адраджэнцамі". Толькі пазьнейшыя часы маглі выявіць праўдзівае аблічча, часы, якія перад кожным паставілі пытаньне: што трэба разумець пад словам народ, барацьба і адраджэньне? Характэрным яшчэ для нашай мяшчанскай літаратуры ёсьць тое, што яна патрапіла раздрабіць суцэльнае, збаналізаваць вялікае; порах празначаны для ўзрыву стар'я спалены быў у цесных пакоях. Атрымаўся феервэрк і шум, але ня гром і ўзрыў, ад якога маглі-б пасыпацца заплясьнелыя шыбы вакон.

Наплыў маладняка стварыў у нас ня толькі ажыўленьне, але перадусім выклікаў бліжэйшы, безпасярэдны падыход да пытаньняў дня, канкрэтызацыю ў дэталях цэнтральнай думкі на шырокім палатне нашых лятуценьняў, на палатне грамадзкага жыцьця і мастацтва. Трэба было даць творчасьць не аб „адраджэньні", а творчасьць адраджэньня, ня песьні „аб вёсцы", а песьні вёскі і гораду. А гэта мог даць і даў маладняк, які выйшаў з народу і з народам прайшоў па этапах, і тварыў не перарываючы з ім жывой сувязі.

На першы пагляд здаецца — яшчэ рана гаварыць аб тым, што маладняк даў. Але гэта было-б слушным, калі-б мы агранічыліся толькі тэй творчасьцю, якая ў нас прабілася праз рамкі сяньняшніх дзён і адначасна праз другія — „цэнзурныя" рамкі некаторых часапісаў. Можна сьмела цьвердзіць, што тое, што мы чуем — гэта толькі трэцяя частка струн, якімі загаварыла наша зямля і, струн ня самых яркіх і звонкіх. Што нам ведама аб сяньняшняй народнай творчасьці, аб тых песьнях, якія шопатам пяюцца над калыскамі, аб тых галошаньнях, што зьвіняць над раньнімі магіламі, аб сказах, балядах нашых дарог; аб думах - песьнях, што стынуць на цэгле, палаюць на калючых дратох, ці, як подыхі бурнага ветру, хвалюючы жытняе мора праносяцца з краю да краю?

Друкаваныя-ж сяньня „слаўныя" „падарожжы" ці „басьні" некалі будуць служыць мерай інтэлектуальнага роўню таго ці іншага часапісу, ці крытыкі, але ніколі ня будуць мерай грамадзкіх думак, мастацкіх вартасьцяў беларускай літаратуры ў шырэйшым яе значэньні.

Варочаючыся да маладняка, ня можна мінуць таго факту: наш маладняк працуе ў выняткова няспрыяючых абставінах, у залежнасьці ад якіх рост яго інтэлектуальны вельмі павольны. На пачатку гэта ня так заўважваецца. Толькі пазьнейшыя перапевы, ад якіх рэдка хто ўсьцеражэцца, даюць знаць аб гэтым. Таму для нас зразумелым ёсьць прыглушаны застой у творчасьці М. Васілька, а нават і М. Машары. Для нас ясна, што адзін і другі гэты застой перамогуць. Але мы мусім усё перамагаць з большай затратай энэргіі, як іншыя, асягаючы менш-больш тыя-ж вынікі. Гэта стаіць і перад А. Іверсам, Н. Тарас і, яшчэ раней, перад Н. Арсеньневай, якая пачала шукаць выхаду ў псэўданароднасьці. Апрача ўсяго, яшчэ ніводная з суседніх літаратур ня была ў такой нездаровай „апецы" крытыкі, як нашая маладняцкая. Бо ў нас часта браліся і бяруцца за крытыку людзі зусім не пакліканыя да гэтай працы. Адны з іх хацяі паканчалі, як „слаўны" Акінчыц, клясычныя гімназіі, аднак аб мастацкай літаратуры ня маюць „зялёнага" паняцьця; другія — або жылі яшчэ мінуўшымі традыцыямі, або не разумелі нас, або вельмі добра разумелі, але дзеля палітычных мэт ганілі, ці хвалілі толькі тое, што ім адказывала. Дакаціліся да таго, што аб'яўлялі „пэрламі" беларускай літаратуры пустую вершаплёччыну, „князёўнаў", „падарожжы", і дзесяткі, калі ня сотні, іншых.

Трэба было няраз сарваць маску, нягледзячы на тое, што падымалі тады крык розныя абаронцы „свабоднай творчасьці“, „чыстай паэзіі“; няраз, калі не памагала, званілі да „палітычнага пагатовя“... Калі мы выйшлі трохі пазьней за некаторых суседзяў на літаратурны фронт, здавалася-б, маглі навучыцца па іх пройдзенай дарозе, каб далейісьці плячо ў плячо. Але ў нашых артыкулах яшчэ пішыцца і разважаецца аб тым, што ўжо даўно вырашана і напісана. Прыходзіцца нашым крытыкам зноў адкрываць Амэрыкі: ці гэты твор нацыянальны? чаму ня ўспомнена тое ці іншае? І выходзе, што дарма жылі Белінскія, Плеханавы. Адначасна разжоўвалі „слаўныя“ творы, якіх ня было чаго і класьці на зуб з іх пустым зьместам, прымітывізмам формы. Ці запыталі мы калі: якімі вартасьцямі, якімі „аршынамі“ наша крытыка мерыць творы?

Адзін адказаў-бы: музычнымі пераліваміі, апініяй знатакоў сьвятога пісаньня ці іншых эскуляпаў гістэрыі; другі — вартасьць твору мерыцца грамадзкімі заслугамі аўтара. Тут такое вольнае поле ўсім графаманам! Пры гэтым радавыя сувязі, а нават палітычнае кумоўства адыгрывае не апошнюю ролю. Іншыя ўсяк абмінаюць „неблагонадежные“ мейсцы, далікатна абмінаюць самую ідэю і мераць творы асонансамі ды слуцкімі паясамі. Некаторыя з іх любяць, як ябошчык гогаляўскай „Каробачкі“, каб паэзія на сон шчакатала ім пяты, а калі-б і бунтавала, дык толькі па іх рэцэпце. Здараюцца нават сьмешныя рэчы. Раз Бужанскі абвясьціў, што пара нашай літаратуры — пара Машары; праз месяц у мяне адкрыў канец адраджэнізму і пачатак „македонскай“ пары! Або прыраўняйце рэцэнзыі майго апошняга зборніка „Пад Мачтай“ у „Летапісе“ Атоса і ў „Калосьсі“ С. Каліны: першы гавора, што я ўжо „на ўласным шляху“, а другі крычыць, што „на бездарожжы“! Праўда, тут ня шмат і сьмешнага. Там, дзе трэба было памагчы разабрацца, або ўдарыць—крытыка маўчала, а крычала там, дзе і без яе кожнаму ясна. Не, нас ужо яны не направяць на свае прасёлачныя сьцежкі. Мы бачым шляхі. І ў нас, веру, хопе сілы ўзяць высоты, да якіх і голас іх не даходзіў.

А ўсё-ж у гэтыя часы бездарожжаў, разьцярушаннасьці, адны сьведама, другія навошчуп, — праўда, не без правалаў, — а пасунуліся наперад. За кароткі час далі творы, якія стаяць на вышыні мастацтва і паэзіі, а найбольшае — навучыліся гаварыць аб нашых імкненьнях, аб нашых перажываньнях мовай і абразамі зразумелымі ня толькі для нас, але для кожнага. Толькі шырэйшым, глыбэйшым адбіцьцём нашай літаратурай агульналюдзкіх спраў і тлумачыцца зацікаўленьне апошняй украінскага, літоўскага і польскага грамадзянства. Праўда, што за гэты час згасла некалькі літаратурных зор (Грышкевіч, Краўцоў, Казлоўскі), папрабавалі ўспыхнуць старыя (Арсеньнева 1936-7 г.), з маладых Бярозка і дзесятак меншых, здаецца зайшлі на неазначаны час, а некаторых шкада,—маглі-б яшчэ паслужыць прыкладам... як ня трэба пісаць.

Трэба прызнаць, што на творчасьць маладняка саракавых гадоў зрабіла ўплыў не паэзія Н. Арсеньневай і Хв. Ільляшэвіча, а М. Машары і М. Васілька. Тэматыка апошніх была бліжэй да тых настрояў, імкненьняў, якімі жыў маладняк, а сваеасаблівы іх прымітывізм, зьбліжаны да народнай песьні, быў больш зразумелы, як чаканеныя ямбы Н. Арсеньневай, як конструкцыйная мэтафорыка Хв. Ільляшэвіча, якая ад чытача вымагала пэўнай літаратурнай культуры. І хоць М. Машара ў сваіх адраджэнскіх матывах не пайшоў далей за

Ільляшэвіча (у апошняга мы ніколі ня знойдзем такой блытаніны ідэяў, як у „Падарожжы“ М. Машары), то некаторыя творы Хв. Ільляшэвіча „крытыка“ фармальна малаціла толькі таму, што гэта яго творы — Дальняга. Найярчэй гэта выявілася ў часы „Маладой Беларусі“. Ды гэта зьявішча на літаратурнай нашай ніве ня першае і не апошняе. Прыраўняйце водзывы „Роднага Краю“ аб „літаратурным вечары“ і яго рэцэнзыі; водзывы ў „Беларускім Фронце“ аб „Мамчынай горцы“ і аб „Нарачы“. Цэлая маса падобных рэцэнзыяў у „Калосьсі“, не ўспамінаючы іншых фактаў, дзе іменна ў ацэне кроўная сувязь ці палітычнае кумоўства перадусім бралася і бярэцца пад увагу. І таму ў нас столькі ёсьць „пэрлаў“ літаратуры знойдзеных „крытыкай“ у асоб, у якіх апрача „крытыкі“ ніхто-б і не падазраваў тых „пэрлаў“. І зразумела чаму чытач, нават наш беларускі, найменш можа выбрэдны, не бярэ гэтых „шэдэўраў“ у рукі больш, як адзін раз у жыцьці.

Варочаючыся да ўплываў М. Машары на маладняк, трэба зазначыць, што Машара стоячы на грунце адраджэнізму, як на нашаніўскай спадчыне, быў адначасна зборным пунктам гэтых раскіненых шляхоў. І таму, што большасьць гэтых дарог ня былі дарогамі па якіх мог ісьці народ, а толькі блудзячыя ў туманох адзінкі, — і адраджэнскі гасьцінец Машары мусіў загубіцца ў туманох. Таму для нас цяпер зразумела, чаму на працягу столькі год з гэтага перш „магічнага“, а пасьля збаналізаванага слова не паўстаў нават адзін жывы вобраз накіданы жывымі хварбамі. Ясьней будзе гэта яшчэ тады, калі мы ўявім сам працэс адраджэньня, зьвязаны з сяньняшнім днём, з штодзеннай барацьбой. Ня з гэтай, што ў вершах з клічам „наперад!“ супроць „ночы“. Гэтая сымболіка мала прамаўляе, бо німа самога вобразу з якога павінен выйсьці рух „наперад!“, а не наадварот. Машара, як лірык, адчуваў пэўную штучнасьць атмасфэры і таму так рваўся да заўтрашняга дня. Але і заўтрашняе жыцьцё ў яго вырысоўваецца праз прызму таго-ж самага адраджэнізму, — бача вясёлыя твары людзей і песьні,— і зноў адсутнасьць вобразу з якога-б выплывала гэтая вясёласьць, радасьць і песьні. Ён — лірык свайго пакаленьня, хутчэй часткі інтэлігенцыі і сялянства, якая вошчупкам шукае сьцежак да сонца на бездарожжы нашых дзён. Можна згаджацца, ці не згаджацца з яго вобразамі,—паэт даў тое, што пераж ыў, адбіў сумную рэчаіснасьць. У сваім артыкуле „Стрэхі за гасьцінцам,“ я стараўся выявіць сутнасьць Машары, як паэта вёскі, „...вёскі, катораая стаіць водаль ад вялікіх гасьцінцаў, па якіх ідуць людзі, скрыпяць калёсы абозаў з сялянскай бядой. Куды яны ідуць? дзе мэта? Ня відаць яе з прасёлачных дарог. Толькі паэт чуе, што там, куды ідуць людзі, недзе ёсьць шчасьце, і яны яго здабудуць, і здабудуць для ўсіх. Кожная няўдача тых людзей хвалюе паэта, кожны адважны крок, калі не парывае за сабой, усёж пакідае глыбокі сьлед, уліваае надзею ў поступ і веру ў тыя далёкія вехі, якія гараць на народных шляхох“.

Шмат супольнага з Машарам мае М. Васілёк, які парваўся глыбей выявіць сялянскую стыхію. Абое яны лірыкі. Але калі першы бача на твары ўсьмешку, другі гэта бача ў „душы“, і яшчэ, сказаў-бы, — Васілёк бача тое, што гэтую ўсьмешку, ці сьлёзы, выкліла.

Творчасьць А. Івэрса, Н. Тарас, праўда, яшчэ мае на сабе ў тэматыцы ўплывы Машары, Васілька і іншых, але ў большасьці ўжо арыгінальная. Можа яшчэ німа суцэльнага пагляду,—якраз таго, што



ВЛАДАС ДРЭМА — ЖНІВО — ДРЭВАРЫТ

Владас Дрэма — малады талентавіты віленскі літоўскі мастак-маляр, а разам здольны мастацкі публіцыст і крытык. З выдатнейшых твораў знаныя яго графікі „Бабулька", „Жніво", „Хлеб", „Фантазія Віленскага Готыку" і інш. Працуе цяпер галоўным чынам на полі т. зв. тарнаванага мастацтва.

лучыла-б паасобныя фрагмэнты абразоў, — ёсьць затое багатая практыка іх папярэднікаў, а перадусім свой багаты запас і пеPажытага і пераЖыванага жыцьця. На іх палотнах, перадусім ахопліваючых матывы пэйзажовыя, бачым яркія і сьмелыя сьляды пэндзля, а ў плястыцы—натхнёныя сьляды разца.

З цэлай масы пачынаючых дадатня выдзяляюцца: Зьвястун, Гаротны, Дубровіч, Сіняк і Сірата. Некаторыя з іх ужо даўно друкуюцца, як С. Хмара. Але большасьць яго твораў вымагае грунтоўнай апрацоўкі. Хаотычны слоўнік, нэрвовае шуканьне формы, нясумернае награмаджэньне пабочных абразоў, гразіць перарадзіцца ў хранічныя недахопы і шарахаватасьці. Напр.:

Месяц — ліхтарка з-за хмаркі плашча,
зоры — бліскучыя гузікі,
вецер — брутальны бандыт, янычар,
хлешча бізуннаю музыкай.

На творчасьці П. Сіраты жыцьцё палажыла свае панурыя цені; у гэтага аднаго з найздальнейшых маладнякоўцаў паўстаюць свае асаблівыя паэмы, гаворачыя аб вялікіх яго здольнасьцях:

... Будзе песьня губіцца ў распененых студзенем далях.
Да цябе даляціць — ты хоць раз сірату прытулі.
Цёплай сейбіта жменяй мы шчыра жыцьцё раскідалі,
каб вясна разцьвіла для людзей на пакутнай зямлі.

П. СІРАТА: „Таварышцы маей вясны“

Не закрануў я дзесяток менш ведамых. Некаторыя з іх могуць яшчэ вырасьці (Новік Ганна), хаця большасьці ў сяньняшніх няспрыяючых абставінах пагражае і застацца пачынаючымі. Але ўжо з гэтым маладняком, які маем, здаецца сьмела можам распачаць „македонскую пару“ нашай літаратуры.

Перад намі высяцца перашкоды, сяньня яшчэ можа перарастаючыя нашыя рассеяныя сілы. Але гэта толькі сяньня. Некаторыя пазыцыі ўжо можам атакаваць. Толькі трэба паставіць на вышыні існуючую прэсу. Бяз гэтага ў нас затрымаецца даплыў новых сіл і рост ужо разбуджанага маладняка. Заместа артыкулаў аб спарахнелым стар'і, заместа непатрэбнага балясту дыскусыйна-рэцэнзыйнага аб тым, што гаварылі ці хацелі сказаць нябожчыкі, — трэба гаварыць аб жывых людзях, вучыць і вучыцца, — а гэта мы патрапім, бо не пакладалі рук і вучыліся ў абставінах яшчэ можа горшых.

А ўсё-ж і да гэтага часу некаторым цяжка зразумець гэтыя простыя рэчы, пераламаць рамкі шаблёну, абмежаваннасьці. Сколькі будзячага, новага дало нам супрацоўніцтва з маладняком літоўскай літаратуры. Лепш мусім пазнаць літаратуры і іншых братніх народаў, а перадусім зьвязацца з украінскай, з польскай і іншымі. Мы працавалі да гэтага часу адасобненыя. Гэта шкодна адбілася на творчасьці мінулага. Маем шмат супольнага, і толькі ў вялікай кузьні ўсей людзкасьці народзяцца песьні „весялейшыя ў іх і ў нас“.

Праўда, пульс нашай літаратуры б'ецца яшчэ вельмі памалу, мы расьцярушаны. Але адно і другое ў большай частцы залежа ад нас.

На нашу долю выпала заданьне вывясьці нашу літаратуру на шырокі гасьцінец мастацтва, уліць у яе сілу, з якой можна было-б

горда выпрастаць доляй сагнутыя плечы, даць крыльлі і сьмеласьць да сонечных узьлётаў.

Нас не павінна палохаць тое, што тыя ці іншыя адзінкі праз нейкую памылку стоячыя пры літаратуры, абрушацца на нас, а некаторыя часапісы будуць хрысьціцца ад нашых твораў. Ні адны, ні другія ня маюць права прэтэндаваць на судзьдзяў, а тымбольш калечыць падрастаючы маладняк. Вынікі іх бачым. Час прыйшоў сказаць нам сваё слова. І мы гэта зробім.

Вільня, лістапад 1938 г.

# БЕЛАРУСЫ Ў ФРАНЦЫІ

## *Ліст з Парыжу*)*

Урад, каб „адмаладжываць“ армію эмігрантаў-работнікаў, стала ўпушчае новую, маладую эміграцыю, і адначасна стараецца выцісnuць з Францыі старую, каторая пры цяжкой працы ўжо „знасілася“. Але гэта не так лёгка ўдаецца. Асабліва моцна трымаюцца беларусы, бо-ж дома іх нішто лепшае не чакае. 70-тысячная беларуская працоўная армія, аграмадная стыхія гаспадарча - творчай сілы, што разбрылася па ўсей францускай зямлі — ад Міжземнага мора, паўднёвай Францыі, Альжыру да Ля - Маншы, ад Пірэнэяў да Альп і Райну, — неяк знайходзе магчымасьці да існаваньня. Пакінуўшы мілую сяньня, хаця і галодную вёску, наш беларускі селянін бяз страху і не бяз спрыту палез у лёхі шахтаў, стаў пры тапленьні жалеза, сеў за стырно самаходу, або — астаўшыся верным сваім спрадвечным звычаям, — пасунуўся з пілой на лясныя горы, ці пайшоў за плугам, за паркай добра адпасеных „артылерыйскіх“ коняў.

Арганізацыйны рух сярод беларусоў, які імкнуўся-б ахапіць усю эміграцыю ў Францыі, пачаўся ў канцы 1930 году. Да гэтага часу хаця і існавала некалькі гурткоў, але яны ніколі ня ставілі сабе шырэйшых мэтаў. Былі гэта розныя чыста мясцовыя арганізацыі, часта толькі „сяброўска-сямейнага“ характару.

Найвыдатнейшым з іх па сваей актыўнасьці быў гурток беларусоў у Біянкуры (Парыскае прадмесьце). Арганізаваў яго якісь работнік фабрыкі Рэно — Сарока. „Арганізацыя“ гэта была даволі простая і арыгінальная. Сарока, кажуць, быў баявы хлапец, бойка чытаў пабеларуску і меў шмат беларускіх кніг. Бяз кнігі ён нікуды і ня выходзіў. І на'т, калі другія гулялі ў карты, ён разчыняў Купалу і пачынаў ім чытаць. Бывала, што і зацятыя картаўнікі няраз кідалі карты, слухалі і плакалі... Але на гэтым і канчалася.

Сарока, нажаль, не дадумаўся на'т залегалізаваць свой гурток, у якім ён мог-бы сабраць добрую паўсотню (столькі было беларусоў у Біянкуры). Было гэта ў 1926 — 27 гадох. Былі падобныя „гурткі“

*) Пачатак гэтага ліста глядзі ў папярэднім нумары „Беларускага Летапісу“.

і ў Эльзасе, Лётарынгіі, у паўночнай Францыі, і на паўдні; але яны ня толькі ня мелі між сабой сувязі, але на'т і ня падазравалі, што паза імі існуюць яшчэ іншыя беларускія згуртаваньні. Былі пробы ў некаторых раёнах арганізаваць філіі пры польскіх, расейскіх і ўкраінскіх работніцкіх арганізацыях, але ўсе яны канчаліся тым, што пачынальнікі ўцягіваліся пасьля ў працу сваіх „патрональных" арганізацыяў, а ад беларускай „філіі" не аставалася і ўспаміну.

Самастойны арганізаваны рух беларускай працоўнай эміграцыі пачынаецца з часу, калі на французкім небасхіле зьявіліся два маладыя інжынэры, толькі што кончыўшыя студыі ў Чэхаславаччыне. У сьнежні месяцы 1930 г. паўстае ў Парыжы цэнтраля пад назовам: „Хаўрусу беларускай працоўнай эміграцыі", з правам закладаць свае аддзелы па ўсей Францыі. За 8 месяцаў дзейнасьці Генэральнай Рады Хаўрусу было зацьверджана 5 філіяў на правінцыі, з агульным лікам каля 3 з палавінай сотняў сяброў. Сувязі пашыраліся з кожным днём. Генэральная Рада была ўжо ў поўным кантакце з галаўнейшымі прамысловымі асяродкамі Францыі, як Поўнач, Эльзас-Лётарынгія з паўднёвымі шахцёрамі, прамысловым раёнам Мосэй і Мо. У Парыжы была вельмі добра наладжана культурна-асьветная праца (сталыя вячэрнія курсы); гатаваліся ўжо прыступіць да выдаваньня свайго друкаванага слова.

На вялікае няшчасьце, ня ўдалося дастаць дазволу на працу ніводнаму з прыбыўшых з Чэхіі ініцыятараў і кіраўнікоў арганізацыі. Пачынаўся акурат крызыс і абодвум адмовілі карт. Матар'яльных засабаў да існаваньня ня было — мусілі таму пакінуць Парыж, а разам і арганізацыю. Адзін з іх заграз дзесь у глухой правінцыі, знайшоўшы там кантракт, другому-ж на'т ня ўдалося ўтрымацца ў мэтраполіі. У Цэнтралі-ж, хаця асталіся і шчырыя працаўнікі, але ня сумелі яны ўтрымаць арганізацыю. Пасьля 2—3 гадовага, чыста фармальнага ліпеньня, усё развалілася, на'т пагубілі сувязі.

У 1933 годзе ізноў проблеск ажыўленьня. У Бэрліне зьяўляецца, хаця і слабенькая і нязусім удалая, але беларуская газэта. Дайшоўшы ў Францыю, яна пачынае быццам памагаць вязаць параскіданыя арганізацыі. Пасыпаліся туды з розных кутоў Францыі карэспандэнцыі, вымогі даць кіраўніка. Але часапіс праз паўгоду нейдзе прапаў. Ізноў змоўкла ўсё ў Францыі.

Дарэчы, варта адзначыць, што ў няўдачы арганізацыйнага руху ў Францыі вінаватае нямала і беларускае грамадзянства ў Краі, каторае не праявіла чульлівасьці і ўвагі сваім братом на чужыне ў іх пачынаньнях.

У 1936 годзе вярнуўся ў Парыж адзін з ініцыятараў Хаўрусу, якому, як фізычнаму інваліду па цяжкім раненьні на працы, удалося тут легалізавацца. Пад'ехала і яшчэ новых некалькі добрых працаўнікоў. Ад гэтага часу Хаўрус пачынае станавіцца штораз на цьвярдзейшы грунт. Хаця матар'яльныя ўмовы яшчэ горшыя, але праца няўпынна пасоўваецца наперад. Удалося абнавіць некаторыя занепаўшыя філіі. Навязываецца кантакт з амэрыканскімі беларусамі.

З 1936 году Хаўрус пачаў выдаваць свой орган (на літографе). У Парыжу наладжаны нядзельныя курсы, з'арганізавана бібліятэка-чытальня, якая часткова высылае кнігі і на правінцыю.

Цэнтраля арганізацыі месьціцца пад адрэсам: 65, Rue des Gravillieres, Paris 3-e. „Chaurus des ouvriers Bielorus en France".

Найвялікшы недахоп арганізацыі той, што яна яшчэ ня мае ніводнага вольнага чалавека ў цэнтралі, які б мог аддацца выключна арганізацыйнай працы, і час ад часу выяжджаць на правінцыю для дакладаў-лекцыяў. Гэта яе вялікі недахоп, насьледкам якога арганізацыя не заўсёды можа даваць належны адпор розным варожым наступам, якія сіляцца апанаваць беларускую эміграцыю, падыходзячы да нашых братоў з грамоздкім апаратам хітрай агітацыі, дзеля яе збаламучаньня з праўдзівага беларускага працоўнага шляху.

**А. Задарожны**

---

МАКСІМ ТАНК

## ЦІХА Ў ПОРЦЕ

Тлум шумеў, кіпеў ля параходу.
Ў Аргентыну плыў жывы тавар.
Цёплы вецер з роднай стараны, з усходу,
раз апошні цалаваў ім рукі, твар.

— Хлеба, хлеба зарабіць кавалак...—
кожны думаў і глядзеў у даль,
як нёс сіні вецер вал за валам,
нёс мора думак, мора хваль.

А імгла спусьцілася над морам,
абняла акіянскі параход...
Хтось іграе, на гармоніку гавора
пра бяду, пра гора, пра народ...

Цёплы вецер з роднай стараны, з усходу,
раз апошні цалаваў ім рукі, твар...
Ціха ў порце, — бо на параходзе
ў Аргентыну адплыў жывы тавар.

---

АЛЕСЬ ДУБРОВІЧ

## У ЗОРНЫ КРАЙ

Мне песьняй выліць хочацца
ўвесь жар грудзей маіх.
Наперад! не варочацца,
хоць шлях калюча-ліх!

За хмарамі, за горамі,
ёсьць сіня-зорны край.
Іду к яму нязморана.
Гэй, сэрца! марш іграй!

Там зораў прыпол поўны я
згарну з тэй сінявы,
ды к вам, прасторы родныя
загонаў сялавых,

вярнуся, поўнай жменяю
пад стрэхі хат сыпну, —
няхай гараць праменьнямі
і людзі сінь іх п'юць!

1937

МАКСІМ ТАНК

## ШАІРЫ *)

*З нагоды адкрыцьця году нарадзін Шоты Руставэлі...*

І казалі: ня вер музе!..
На другі дзень па вясельлі
ўжо паэтаў цалавала у калосьсі за ракой,
і са мной у лес хадзіла. Сяньня быццам з Руставэлім
пяе ў сонечнай Кольхідзе над Ріонам і Курой.

Не паслухаў, о, ўладарны, наша гордасьць, о прадвечны!
Як магла Даліля гэтак, ўсей краіне на бяду,
рагачом цябе пакінуць, стальлю ножніцаў авечых
ад красы вушэй адрэзаць бараду?!

Мо' прыдзецца па руно тваё нам плыць як аргонаўтам,
на дне Понту, ці на рыфах палажыць лабы...
Толькі візы дай — ляцелі-б на пэгасах, ці на аўтах!
Не маўчы, о, ўсемагутны, адазьвіся — што рабіць?!

Можа лепей заваліцца пераплыўшы Дзьвіну - Лету,
вочы сплюшчыўшы ад дожджу нейдзе захінуцца ў цень?
А мо'... лепш да Васілеўскага схадзіць каму з паэтаў,
папытацца: барада ці адрасьце?..

15.XI.38

*) Шаіры — гэта разьмер вершаваньня, якім напісаны гэты верш. Разьмерам гэтым грузінскі паэта Шота Руставэлі напісаў каля 1187 году сваю слаўную паэму „Віцязь у тыгравай скуры“.

## НОВАЯ ЗЬМЕНА

**Ведаем — многа накіпела, многа набалела ў чулай маладой душы ў сяньняшнія дні. Хочацца ўсё гэта сказаць, выліць, хочыцца з ўсімі падзяліцца тымі „жывымі адгаласамі“, якія кожную восень прывозяць з сабою ў унівэрсытэцкія гарады нашыя студэнты.**

**Добра гэта разумеем. І таму Рэдакцыя „Беларускага Летапісу“, спаўняючы просьбу групы беларускай студэнцкай моладзі, будзе ў меру магчымасьці ўступаць мейсца ў часапісе для творчасьці нашага літаратурнага маладняка. Хай разьвіваюцца, хай вострыць пяро, хай гартуюць слова і думку, — гэтыя магутныя дзейнікі сучаснай грамадзкай барацьбы, — хай прастуюць маладыя крыльлі да вышэйшых, арліных лётаў. Хай расьце і крэпне да чынаў нашая маладая, новая зьмена.**

**Патое паўстаюць студэнцкія бачыны ў „Беларускім Летапісе“.**

**РЭДАКЦЫЯ „БЕЛАРУСКАГА ЛЕТАПІСУ“**

Вільня, у сьнежні 1938 г.

НОВАЯ ЗЬМЕНА
ДУМКІ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦТВА
№ 1 СЬНЕЖАНЬ 1938

# НОВЫ ГОД ПАЧЫНАЮЧЫ

*З нагоды разпачатай працы Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні*

Восемнаццаць гадоў існаваньня нашай арганізацыі, восемнаццаць гадоў грамадзкай працы студэнцкай моладзі, працы над здабываньнем веды, працы над сабой — за намі.

І сяньня, пачынаючы дзевятнаццаты год нашаго Студэнцкага Саюзу, трэба азірнуцца на пройдзеную дарогу, ацаніць свае чыны, падлічыць памылкі і асягненьні, і вытыркнуць вехі далейшай працы для сябе і для будучых студэнцкіх пакаленьняў.

Беларускі Студэнцкі Саюз паўстаў у 1920 г., каб лучыць беларускую ўнівэрсытэцкую моладзь на ЎСБ у цесную студэнцкую сям'ю; паўстаў, каб гадаваць і гартаваць яе духова, падтрымліваць матар'яльна. І гэтых восемнаццаць гадоў, што прайшлі гэта восемнаццаць гадоў змаганьня з матар'яльнымі нягодамі, гэта восемнаццаць гадоў упорыстага змаганьня за душу беларускага студэнта, — змаганьня цяжкога, бо з усіх старон накіраваныя сілы, каб гэтую моладзь здэнацыяналізаваць, адарваць ад родных каранёў, выкапаць глыбокі роў між ёю і народам.

Ды ня гледзячы на прыгожыя, панадныя міражы кар'еры, пасадаў, а часта нават звычайнага хлеба штодзеннага, і ня гледзячы на страшэнныя матар'яльныя варункі, на вечную, проста хранічную барацьбу з голадам і холадам — большасьць сяброў і арганізацыя вытрывала, ня зыйшла з дарогі сваіх абавязкаў перад народам, перад Бацькаўшчынай.

Страты былі. Слабейшыя ламаліся і ломяцца духова, адыходзілі і адыходзяць ад нас за лыжку смашнейшай поліўкі, за „катлеты"... Расстаёмся мы з імі бяз жалю. Хай паўзуць сабе шчасьліва, з гібкай сьпіной і сумленьнем, аж на вяршыны бюракратычнага Капітолю!

Так! — была дэзэрцыя, была і здрада. Але была і вялікая самаахвярнасьць. Былі сябры, якія былі змушаны нават пакінуць унівэрсытэцкую лаву, але вытрывалі, духова не заламаліся, сумленьнем не таргавалі. А трэба сьцьвердзіць, што цяжкое жыцьцё заўсёды дае тое, што гартуе людзей, вее арганізацыю ад усякага грамадзкага смяцьця.

Нас тут на ўнівэрсытэце ня шмат. Ня шмат, калі мы свой лік прыраўняем да тых абшараў, якія скрозь і шчыльна залітыя морам беларускага насяленьня. Аснаўная прычына гэтага ўсім ведамая — гэта агульнае нацыянальнае і соцыяльнае палажэньне беларускага народу. А тымчасам гістарычныя абставіны мо' нідзе ў сьвеце не вялі і не вядуць такой неашчаднай гаспадаркі інтэлектуальнымі сіламі народу, як гэта робяць у нас. Кожнае пакаленьне беларускай інтэлігенцыі,

якое народ з сваіх нетраў выкідае, скора тае, ломіцца, у вялікай меры ністожыцца фізычна і духова, адрываецца сілком ад родных загонаў. Беларуская інтэлігенцыя рассыпаная ў Чэхаславаччыне, у Амэрыцы, Францыі, Манджурыі, нейдзе за Ўралам, у Нарымскім Краі, ува ўсей Польшчы, — але найменей яе хіба там, дзе яна найбольш неабходная — безпасярэдна на культурных і грамадзкіх гонях Бацькаўшчыны.

Мы не заўсёды будзем магчы пакрыць гэтую нястачу сваім лікам, і таму мусім скіраваць асаблівыя натугі на ўзьвялічэньне сваей якаснай вартасьці, каб маглі даць з сябе ўсё, што можна, каб маглі выпаўніць доўг і абавязак перад мільёнамі тых братоў, сярод якіх мы расьлі, сярод якіх гадаваліся.

Канечнае гэта, як для сяньняшняй „шэрай“ нацыянальна-грамадзкай працы, так і на часы бліскіх гістарычных пераломаў. Над Эўропай, над сьветам, згушчаюцца цёмныя хмары. Раней-пазьней шпаркі ход гісторыі прынясе нам вялікія зьмены, вялікія неспадзеўкі. На ўсё трэба быць прыгатаваным... І цяпер, і тады, мы павінны ўмець даць з сябе ўсё і павінны заўсёды ўтрымаць у пашане адказнае, узвышанае імя *студэнт, беларускі студэнт!*

Але мусім помніць, што побач з працай грамадзкай, ня менш важнай ёсьць і праца навуковая. Амаль усё поле беларускай навукі ў вялікай меры яшчэ ляжыць дзірваном. Папярэднія пакаленьні беларускай інтэлігенцыі, асабліва нашаніўцы, у сваей грамадзкай працы перадусім адклікаліся да пачуцьця, сэнтымэнту, і стварылі магутны „аргумэнт для сэрца“ — багатую літаратуру. Аднэй з галоўных задач нашага пакаленьня ў культурнай галіне мусіць быць: стварэньне ня менш магутнага „аргумэнту для розуму“ — беларускай навукі. Бо як-бы мы ня думалі будаваць сваю будучыню, то заўсёды мусім добра пазнаць і ведаць той матар'ял, які дае нам да гэтага нашая гісторыя і соцыёлёгія, які дае нам прырода роднай зямлі. Гэта праца, якой ніякі іншы слой народу ня можа выканаць; гэта ляжыць толькі на нашых плячох, гэта мусім зрабіць толькі мы.

Каб магчы-ж якнайлепей у будучыне гэтую задачу выпаўніць, трэба добра апанаваць навуковыя мэтады, трэба пільна паглыбляць сваю веду, чэрпаць шчодра поўнай жменяй з багацьцяў сусьветнай культуры і навукі. Гэта адна з найгалаўнейшых спраў студэнцкай моладзі на ўнівэрсытэце, і аб ей заўсёды трэба помніць.

Наперадзе, пасьля ўнівэрсытэту, чакае нас вялікая праца. Многа веры, здольнасьці і сіл маладых трэба кінуць, каб цяжкая сучаснасць заірдзела золкам сьветлай будучыні. І хай ня трывожыць нас малы лік. З кожным годам, з кожным днём расьце, магутнее народная сьведамасьць, якая будзе тварыць усё новыя і новыя кадры сваей інтэлігенцыі. Штучныя перашкоды тут нічога не памогуць — за намі пойдуць наступныя пакаленьні беларускай студэнцкай моладзі.

Мы тут у Вільні не адны. Мы ведаем, што ў адзін рытм з нашым сэрцам б'е сэрца тых, што ў гоне за ведай рассыпаліся па ўсей Эўропе; тых, што студыююць над берагамі Віслы, Эльбы, Вэльтавы, на ўнівэрсытэтах Коўні, Рыгі, Рыму, і там — на Ўсходзе. Разам, супольнымі натугамі, выканаем задачы, якія на нас ускладае гісторыя. Тыя-ж дзірваны на грамадзкай і культурнай ніве Бацькаўшчыны, якія нам асталіся, ад дружнай нашай працы зарунеюць маладой, зялёнай руньню НОВАЙ БЕЛАРУСІ, новай ня толькі ў сэнсе нацыянальным, але і канкрэтным соцыяльным.

# МЭДЫЦЫНА Ў СУЧАСНАЙ ВЁСЦЫ

Слаўны тэорэтык анархізму, Крапоткін, у сваім творы „Речи бутовщика“, гаворачы аб застасаваньні мэдыцыны сярод сялянскай і работніцкай беднаты, сказаў, што ў такіх выпадках мэдыцына ёсьць „абман і ашуканства“.

Сяньня, калі ўжо шмат гадоў прайшло ад сьмерці Крапоткіна, калі мэдыцына зрабіла вялікія шагі наперад — словы гэтыя аднак мала згубілі на сваей праўдзівасьці. Так, як тады, калі лекарскія пачынаньні былі яшчэ ў пялёнках, таксама і сяньня, калі яны ператварыліся ў вялікія адкрыцьці сусьветнага значэньня, — большая частка грамадзянства, сяляне і работнікі, асталіся ў вялікай меры паза кругам іхняга дабрадзейства.

Як - жа вытлумачыць гэтую недарэчнасьць?

Ходзіць аб тое, што тады, калі мэдыцына разьвівалася шпарка і ўсестаронна, то грамадзкі лад і грамадзкая справядлівасьць пасоўваліся толькі на паперы (а часам ня было і гэтага). І таму мэдыцына з яе асягненьнямі і надалей асталася недаступнай гэтым слаём грамадзянства дзеля тых - жа матар'яльна - грамадзкіх прычын, а лекарскія парады „адпачынце, цёпла апранайцеся, жывіце ў цёплай і сухой хаце, добра ежце, не нэрвуйцеся, паедзьце ў санаторыю“ і г. д. і г. д., гучаць горкай, едкай насьмешкай.

Вось - жа, калі гэты сумны Крапоткінаўскі сказ адносіцца да ўсіх неўпрывільяваных грамадзкіх слаёў, то тым больш ён падходзіць да нашай вёскі, бо тут да папярэдніх прычын, далучаюцца яшчэ прычыны характару нацыянальнага. Галоўная з іх тая, што чужыя дахтары не разумеюць хворых, а хворыя дахтароў.

Бо - ж мала зразумець чалавека як нейкую анатамічную цэласьць, мала выкрыць тыя ці іншыя хвараблівыя праявы — трэба сягнуць далей, трэба зразумець ягоную душу, яго духовую хваробу. Толькі пасьля ўсяго гэтага можна выкрыць і зразумець у поўнасьці хваробу чалавека, правясьці адпаведнае лячэньне, а перадусім — здабыць давер пацыента да нашай веды і шчырага падходу, што і ёсьць найлепшым гварантам лячэньня.

Як - жа іначай выглядае ўсё гэта сяньня, калі селянін ідзе да дохтара, як да чужога яму „urzędnika“, калі ня можа быць мовы аб зразуменьні і даверы, а гэтым самым і добрай помачы, калі дахторскі габінэт часта трактуецца як гандлярская крамка.

Найлепшым пацьверджаньнем гэтага ёсьць тое, што ў XX стагодзьдзі замест веры ў навуку-мэдыцыну, цьвіце яшчэ вера ў знахароў і шаптуноў. І мыляецца той, хто віну за гэта скідае на сялян. Сяляне тут ідуць толькі па той дарозе, на якую іх пхаюць сваім казённым холадам „паны дахтары“.

Зьнішчыць гэтае спрадвечнае зло змогуць толькі дахтары беларусы, што самі вышлі з вёскі, каторыя ў гэтым пагарджаным „брудным хаме“ апрача анатамічнай істоты пабачаць і духовую, а апрача мэдычных лекаў увальюць у яго хворую душу лек брацкіх адносін і зразуменьня. Калі беларуса хворага будзе лячыць ня чужынец, а свой, і калі зьменіцца адпаведна грамадзкі лад, тады толькі закрасуе па нашых вёсках вера ў мэдыцыну, тады толькі шчэзнуць шаптуны і знахары, а сумны сказ „абман і ашуканства“ зменіцца на „шчасьце і дабрадзейства“.

**Medikus**

# НЕХТА ПАМЁР

Нехта памёр...

Капаюць магілу.

Рыдлёўка манатонна скрыгоча зубамі аб жвір і ано час ад часу мацней клапане, лучыўшы на камень. Вецер гэтыя клапаньні нясе далёка праз нямое царства сьмерці, адбіваючы ад дзераваў і крыжоў прыцішаным, аднак выразным рэхам.

Раптам рыдлёўка глуха грукнула, — закранула за спарахнелую дошку, а далей нейкія клакі, даўгія збуцьвелыя пасмы, зьмяшаныя з зямлёй, і напасьледак... чалавечы чэрап.

— Астачы людзкога жыцьця...

Навокал усё замерла, затаіла з п'етызмам дых у грудзёх, а пасьля моў гураган пранёсься па вяршынах бярозаў. Яны затрасьліся яшчэ мацней, тузалі галінамі на ўсе бакі, ірвалі з сябе лісьце й шпургалі аб зямлю, заводзячы адначасна нейкую страшную мэлёдыю бязьмежнага болю й безнадзеяньня.

А сярод жаласнага, надгробнага плачу, рэзка адбіваўся адзін апрычоны голас сьмеху — бязуважнага рогату, які насьміхаўся з вечна ненасычанай прагавітасьці людзей-самалюбаў. Насьміхаўся з усіх гэтых лёгкаверных ахвяраў, што як ночныя цьмы даліся знадзіць на фальшывы блеск эгаізму, які за тое, што вызнавалі, што верна служылі яму, срога мсьціцца, плацячы не абяцаным шчасьцем, а праклацьцем вечнае загубы.

Апутаныя ідалапаклонным культам собскага „я“, зложылі ўсё на ягоным аўтары, а той разам з імі рассыпаўся ў жменю попелу—жыр чэрвям.

А некалі-ж усяго было мала гэтаму ненасычанаму „я“. Ягоныя паклоньнікі заграбалі пад сябе што ано давалася, нішчачы бязьлітасна ўсё і ўсіх, што магло ці прабавала запыніць іхні разгон. За золата таргавалі собскім сумленьнем, за золата прадавалі шчасьце, а часта й жыцьцё сваіх бліжніх. А цяпер шчэзлі з сьвету, быццам мыльныя бурбалкі, без найменшага рэха, не пакідаючы па сабе ніякага апусьценьня і ніякага сьледу. Ніхто іх ня помніць, ніхто ня ўспамінае. На'т у найбліжэйшых гадунцоў борзда абсохлі сьлёзы, бо і гэтыя, навучаныя іхнім прыкладам, рупяцца таксама наўперад аб сабе; занятыя культам собскага ідала, ня маюць часу на памяць аб сваіх папярэдніках. Быццам з заплюшчанымі вачыма, сударгава, дабівацца багацьцяў і дастаенстваў, баючыся глянуць далей наперад, каб не пабачыць гэнае бяздоньне бязсэнсу і абсалютную бязмэтнасьць свайго існаваньня.

Жывучы, яны зьяўляюцца ворагамі ўсяго, што жывое, цяжарам для яго. Гэта трутні, якія ня толькі, што не прыкладаюцца да стаўляньня магутнае будыніны агульнага шчасьця рою, але яшчэ зьядаюць дабро сабранае мазольнай працай пчолаў - работніц. Засьлепленыя самалюбствам, моў зайздросныя аб панаваньне над сьветам паганскія валадары Алімпу, стараюцца ўсякае сьвятло затрымаць вылучна сабе. Пазбавіўшы сьвятло жыцядаўчых крыніцаў, заставілі яго ледзь тлецца, шырачы навокал галіту й непраглядную цемру. І, асягнуўшы мэту, з цэрбаравай заўзятасьцяй сьцерагуць свайго твору, а ўсіх сьмелых Прамэтэяў, што пробуюць разьцярушыць гэтае царства цемры, крадучы ў паноў сьвету хоць крышку сьвятога агню для сьмяротных — станоўка расьпінаюць на скалах, крумкачом на жыр.

Забываюцца яны, а мо' ня хочаць помніць, што ідал, якому служаць—марнае нішто, якое за колькі год рассыпецца ў парахно; што несьмяротнае толькі зложанае ў скарбніцу агульнага шчасьця, з якога вякамі карыстаюць пакаленьні, і што жывуць вечна ано тыя, што імкнуцца ўзбагаціць гэтую скарбніцу.

— — — — — — — — — — — — — — — — —

А на ўзгорку шумелі бярозы, пяялі Прамэтэям гімн вечнасьці, казалі ім, што яны не памерлі, што яны жывуць у іхняй працы і ўжыцёўленых іхніх лятуценьнях аб людзкім шчасьці. А самалюбам, што ніколі „ня мелі ў сабе цяпла“, якім за жыцьця яшчэ „душы ў бязплодны лёд застылі“ — нясьлі праклён вякоў, праклён тых пакаленьняў, да шчасьця якіх былі яны запынамі.

**В. Жукоўская**

## НАШАЕ ЛЕТА

Калі жыты ў палёх з вятрамі загавораць,
каб сонечным налівам усьпеніць бель сярпа,
з муроў, бібліятэк маўклівых,
з ляборатор'яў,
ідзём да працы зноў
— да кірак, да лапат.

Мы разам з тымі, што з балот Палесься,
з Надзьвіньня, Нарачы прыйшлі па хлеб, —
на вузкай паласе ў бацькоў не размахнешся
у згорбленым бядой-нядоляю сяле.

Кладуцца паясамі
з далоняў нашых шосы
і тонны дзён цяжкіх ўздымаюцца ў гару.
З каменьня, цэмэнту мы вырвем лёс свой
заўзятай працай мазалістых рук.

Я знаю —
з жнеямі над пожняй сьпелай,
уздыхаючы, матуля, успамянеш мяне...
Ды ня тужы: хоць рукі часта млелі —
наш сьпеў задорна ля дарог зьвінеў!

А калі золатам янтарным сыпне восень
над шляхам, што вядзе да родных хат, —
у муры унівэрсытэтаў з гэтых шосаў
мы вернемся ізноў
ад кірак, ад лапат.

**А. Пружанскі**

# ТРЭЦІ СТАТУТ

## 1588—1938

Абачывалі то ўсіх вякоў людзі мудрыя, же ў каждай рэчыпаспалітай чалавеку пачцівааму нічога ня маець быці дарожшага над вольнасьць, а няволяю так маець гідзіцца, же ня толькі скарбамі, але і сьмерцю яе ад сябе адганяці ёсьць павінен *).

*З прамовы Льва Сапегі аб Статуце на Сойме ў 1588 г.*

Мінае сёлета 350 гадоў з таго часу, калі ў 1588 г. быў укладзены ў сваей трэцяй і апошняй рэдакцыі т. зв. Літоўскі Статут, слаўны збор законаў Вялікага Беларуска-Літоўскага Княства.

Статут гэты зьмяшчае ў сабе добра прадуманыя і стройна ўкладзеныя ўсе аснаўныя правы, якімі кіравалася Вялікае Княства (усяго 487 артыкулаў). У васнову яго лягло тагачаснае беларускае звычаёвае права; апрача таго заметныя на ім уплывы старадаўнага права рымскага. Як ведама, пануючай і культурна вядучай грамадзкай клясай была тады шляхта (баярства). На варце яе спраў і вольнасьцяў,— зусім зразумела, — Статут гэты перадусім і стаяў.

Хаця, паводле слоў Льва Сапегі, Статут „на многіх мяйсцох ад людзей мудрых, а ў правох беглых, з народу нашага на то абраных, папраўлены“, то фактычна рэдакцыя трэцяга Статуту, гэта праца перадусім самога Льва Сапегі, тагачаснага выдатнага беларускага дзяржаўнага мужа, дыплёматы і праўніка. Сапега надаў Статуту апошнюю, срога з боку праўнага прадуманую форму і парадак, ён-жа сваім собскім коштам выдаў яго друкам. За гэтую вялікую работу тагачасныя пісьменьнікі празывалі Льва Сапегу „Солёнам“ **), „айцом айчызны“; а ў 1589 г. ён займае найвышэйшае становішча ў сваей дзяржаве — становішча Вялікага Канцлера.

Друкаваўся Статут у Вільні, у друкарні Дому Мамонічаў. Гэта адзіны друкаваны Статут, бо Статуты з 1529 і 1566 г. г. былі толькі пісаныя.

Напісаны ён быў у мове пануючага лікам і культураю народу ў Княстве — пабеларуску, і таму быў ён лёгка даступны беларусам — большасьці грамадзян Вялікага Княства. Аб гэтым так гавора Леў Сапега ў сваей соймавай прамове, у якой ён прапанаваў Статут гэты зацьвердзіць: „А естлі катораму народу ўстыд праў сваіх ня ўмеці, пагатове нам, каторыя ня обчым якім языком, але сваім уласным правы спісаныя маем і каждага часу, чаго нам патрэба ку адпору ўсякае крыўды, ведаці можам“.

Цікава яшчэ тое, што хаця трэцяя рэдакцыя, пад напорам Польшчы, рабілася спэцыяльна па тое, каб увясьці ў Статут зьмены вынікаючыя з Люблінскай вуніі, якая ў вялікай меры лучыла Княства і Польшчу ў вадну дзяржаву, то ўсёжтакі Сапега, — стоячы на варце

---

*) Усе цытаты з прамовы Льва Сапегі падаюцца тут бяз якіхколечы зьмен у мове; тасуецца ў іх толькі сучасны беларускі правапіс.

**) Солён — вялікі мудрэц і правадаўца старадаўнай Грэцыі; жыў каля 2500 гадоў таму назад.

СТАТУТЪ ВЕЛИКОГО КНЯЗСТВА ЛИТОВСКОГО

Отъ наяснейшого гдра короля его мл[с]ти Жикгимонъта третего на коронацыи въ Кракове выданы: року ҂А Ф ПИ.



Друковано [illegible]

въ друкарни дому Мамоничовъ.

З ласки и привилья короля его мл[с]ти

Загалоўны ліст Статуту Вялікага Княства Літоўскага з 1588 г.

(З Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні).

якнайбольшай незалежнасьці свайго гаспадарства, — у Статуце аб вуніі ня ўспомніў ні слова, з чаго пасьля была вельмі нездаволеная польская шляхта. А і некаторыя пазьнейшыя польскія гісторыкі паступак Льва Сапегі злосна называлі „magnackim wybrykiem". З зробленых усёжтакі зьмен пад націскам Польшчы, бадай найважнейшымі былі зьмены законаў аб абароце зямлёй. І так, паводле Трэцяга Статуту, зямлю ў гаспадарстве мог ужо купляць кожны чужынец-шляхціч (раней чужынцам гэта было срога забаронена). Таксама чужынец мог ужо прыйсьці ў прымы на зямлю да грамадзянкі Княства, калі тымчасам паводле ранейшых Статутаў, такога „прыймiча" жончыны сваякі муселі канечна „скупіць" з зямлі, каб выправіць яго якнайскарэй з межаў гаспадарства. Падобныя зьмены законаў адкрывалі ўжо паляком вароты ў Беларусь для гаспадарчай экспансыі, калі дагэтуль была толькі культурная. Але, нягледзячы нават на гэта, дзякуючы Сапезе, Трэці Статут надалей утрымліваў гаспадарсьцьвенную асобнасьць і незалежнасьць Вялікага Княства ад Польшчы.

Трэці Статут, гэта найвыдатнейшы памятнік права ўва ўсей Усходняй Эўропе, а і ў Заходняй у тыя часы мала было народаў, якія маглі-б пахваліцца такім поўным і так высака разьвітым зборам законаў. Значэньне яго было вялікае ня толькі для Беларусі. Ён меў вельмі выдатны ўплыў і на законадаўства суседніх дзяржаваў, — Польшчы і асабліва Расеі.

Ужо ў 1614 г. быў ён перакладзены на польскую мову і выдадзены друкам. У тым-жа стагодзьдзі пераклалі Статут у Маскве на мову расейскую, але друкаваны расейскі пераклад вышаў толькі ў 1811 г.

Першы расейскі зборнік законаў, т. зв. „Уложеніе" цара Аляксея Міхайлавіча з 1649 г., укладзены на аснове нашага Статуту. У гэтае „Уложеніе" былі ўзятыя з Статуту жыўцом сотні артыкулаў, а таксама многа беларускіх праўных тэрмінаў. Але нягледзячы і на гэта,— як кажа расейскі прафэсар М. Дьяконов, — „образец оказался много выше снимка". Выдатны ўплыў меў Статут і на пазьнейшае расейскае права. Цікава, што калі Льву Сапезе прыйшлося перакладаць Статут на польскі язык, то ён меў вялікія клопаты з прычыны нястачы адпаведнай польскай праўнай тэрміналёгіі. Жаліўся на гэта Сапега ў сваім лісьце з 15 ліпня 1588 г. да віленскага ваяводы Крыштофа Радзівіла. Абавязываючая сіла Статуту на нашых землях трывала да 1840 г.

Расейскія рознай масьці імпэр'ялісты (і ня толькі расейскія...), часта любяць гаварыць аб тым, што іхняя культура здаўна, з самых пачаткаў гісторыі, была вышэйшай за беларускую.

Такія вялікія і слаўныя культурныя памятнікі, як наш Статут, гэта жывыя сьведкі таго, як мы блескам сваей культуры вякамі кармілі, гадавалі духова іншыя суседнія народы. Трэба помніць, што нашае права (як і культура наагул), паднялося на такія вышыні ў часы, калі па Расеі гуляла яшчэ крывавая самаволя цара Івана Грознага, калі там, — як трапна зацеміў Бужанскі, — праўныя адносіны паміж царом і тагачаснай элітай - баярствам, былі часта нармаваныя формулай: „Худой пес Васька ноги твои Государевы лижет"!

Гэта трэба сабе добра ўсьведаміць у 350 угодкі Статуту і помніць, а асабліва помніць тады, калі здарыцца стаць у нейкім музэі перад пажоўклымі лістамі старой, запыленай кнігі — перад Літоўскім Статутам.

**В. С—скі**

# СКАРБЫ ЛЯСОЎ

На захад ідуць цагнікі —
лён, жыта, сасна і бяроза...
Гляджу і гляджу з-пад рукі,
як моладасьць нашу вывозяць.

МАКСІМ ТАНК

Прайшлі тыя часы, калі пад словамі „лес ды лаза“ разумеўся дзікі, бедны й нічога не даючы край. Сяньня лес — гэта вялікае багацьце, якое пры адпаведных варунках і дзейнай ініцыятыве можа даваць вялікую карысьць жыхарам зямлі, на якой расьце.

Ад'емныя вынікі безплянованага ністажэньня лясоў на нашых землях разумеў даўней ужо Ўрад Вялікага Княства Беларуска-Літоўскага, каторы ў палавіне XVI ст. заапекаваўся гэтай справай, выдаючы адносныя пастановы, і таму ў нас да сяньняшняга дня ўтрымалася лясоў на Віленшчыне й Наваградчыне да 22 прац., а на Палесьсі нават да 32 проц. агульнай паверхні.

Галоўным вытварам ляснога промыслу зьяўляецца самое дзерава. Але трэба помніць, што ўжываньне дзерава, як дроваў, ёсьць — паводле сучаснай экономікі,—марнаваньнем цэннага матар'ялу. Як апал, з гледзішча грамадзкай ашчаднасьці, лепей ужываць каменны вугаль ці торф. Нават нявырабленае дзерава, як бэлькі, чугуначныя шпалы, тэлеграфічныя стаўбы, — зьяўляюцца перщарадным матар'ялам, (нажаль перадусім для вывазу заграніцу.) А трэба зацеміць, што высокавартаснай драбнаслаістасьці нашай сасны, — асабліва з Віленшчыны, — рэдка якая сасна дараўняе.

З вольхаў і бярозаў вырабляецца, у нялічных праўда хвабрыках, дыхта й фарнера. Адумысная бярозавая дыхта, г. зв. „лётнічая дыхта“, ужываецца да будовы аэроплянаў.

Асіна вывозіцца з нашых земляў круглякамі ў заграгнічныя хвабрыкі сернікаў, што зьяўляецца сапраўдным рабункам, бо-ж магла-б быць абробленаю ў краі. Шмат дзерава йдзе на выраб таннай паперы. З прастору 4 нашых ваяводзтваў вывозіцца папяроўкі да 31.000 тоннаў на год, што становіць 28 проц. усей экспартаванай колькасьці гэтага матар'ялу з Польшчы. Шмат гандлёвага ўжытку дае і вырабляньне картону, які таксама вывозіцца заграніцу.

Іглястыя лясы далі-б многа больш карысьці, каб тут-жа ў адумысных хвабрыках на месцы перараблялíся на хімічныя прадукты. Сухой дэстыляцыяй — г. зн. аграваньнем бяз доступу паветра, — з дрэва атрымліваецца дзераўляны вугаль, сырая (жоўтая) тэрпэнтына, смала, асфальт, крэазот, воцтавая кісьля. Вышменаваны вугаль стаецца штораз балей неабходны ў сусьветным ваенна-хімічным промысьле, бо ўжываецца да вырабу газавых маскаў. Ягоная цэнная свомасьць нішчыць атрутнасьць газаў, зьяўляецца дасюль незаступнай.

Пры выцягваньні з дзерава цэлюлёзы, — з якой вырабляецца папера й штучны шоўк, — маем яшчэ іншыя артыкулы, як напр. г. зв. „выбуховая вата“, пыроксылін, цэлюлёйд (тасаваны ў фатаграфіцы і да вырабляньня фільмаў.

Ды на гэтым не канчаюцца яшчэ багацьці, якія даюць лясы. Аднокосна ладную вартасьць становяць грыбы й ягады. Можна сабе хаця прыблізна ўявіць, сколькі даходу маглі-б прынясьці гэтыя прадукты, калі з самой толькі Віленшчыны за адзін сэзон вывозіцца цяпер да 20.000 клг. грыбоў, на суму каля сотні тысяч зл. Да паважнейшых артыкулаў належаць таксама лекарскія зёлкі, якімі гэтак багатае нашае Палесьсе, а дзе імі аднак дагэтуль яшчэ ніхто шырэй не зацікавіўся.

Побач з лясамі вялікую ролю ў нашым экспорце маглі-б згуляць лаза й сітнікі. Лазовыя мэблі гнутыя й плеценыя, знаходзяць штораз большы ход на сучасных загранічных і нашых меставых рынках.

Даўней лясы станавілі яшчэ ладную вартасьць як прасторы для паляваньняў, даючы цэнную зьвярыну: зуброў, ласёў, дзікоў, медзьвядзёў, лісіц, шмат вартасных птушак і іншай драбнейшай дзічыны.

Цяпер-жа, — на добры лад, — каб спыніць далейшае ністожаньне лясной зьвярыны, паляваньні на нашых прасторах не павінны мець месца наагул,

Помнячы аб гэтых скарбах лясных нетраў, трэба з трывогаю сьцьвердзіць, што пры сяньняшняй лясной гаспадарцы зашмат вырубліваецца дзерава ў прыраўнаньні да колькасьці засаджываньня новага лесу. Гэтым ідзецца даволі хутка да вынішчэньня лясоў, да вынішчэньня народнага багацьця. І так, за 1919 – 1936 гады ў Віленскім, Беластоцкім, Наваградзкім і Палескім ваяводзтвах паменела лесу на 440.900 га, а засаджана толькі каля 20.000 га.

Другой заганай гаспадараваньня ёсьць вываз лесу неперарobленага — лясной сыравіны. Калі дзераўляных бэлек і пілаванага дзерава за апошнія гады вывозілася з нашага краю да 200.000 тоннаў у год, на суму больш 40 мільёнаў зл., дык хвабрычных і ручных дзераўляных артыкулаў, як дыхта, мэблі, бандарскія вырабы, дошчачкі й плíткі на падлогі, — экспартуецца толькі на суму ня поўных 3 мільёнаў зл. у год.

Нястача адпаведных інвэстыцыяў, а стуль і хвабрык, прычыняецца да абядненьня зямель, бо шмат рабочых рук ня можа карыстаць з тых хвабрычных заработкаў, якія маглі-б мець.

Аб вырабе хімікаліяў цяжка на'т гаварыць. У нас траха зусім няма гэтых хвабрык, апрача смалярняў і тэрпэнтынярняў.

Столькі, як бачым, схавана багацьцяў у нашых лясных засабах. Таму-ж яны і плывуць усё ад нас на далёкі Захад, нейдзе аж за акіян, у Амэрыку.

**Т. Трафімучанка**

# СТУДЭНЦКАЕ ЖЫЦЬЦЁ

Наш летні „адпачынак“ выглядае ня так, як студэнтаў іншых нацыянальнасьцяў. Вясной да хаты едзем па тое, каб працаваць, каб памагчы бацьком і братом у гарачы летні час, каб разам выціснуць працай лішні грош, за які можна было-б паўгаладаючы пражыць зімой у месьце (ясна дарабіўшы яшчэ лекцыямі). Ды да працы мы прывыклі з малку і яе не баімся. Горш, што многія ня маюць на чым дома працаваць. Ідзецца тады да летніх сэзонных работ. Беларускага студэнта знойдзеце

летам у хвабрыцы, з лапатаю пры каналізацыі, пры будове дарог і шосаў. Прыходзіць восень — ізноў зьлятаемся з усіх старон Беларусі, „ад сярпоў, ад кірак, ад лапат“, да кніжак, клінік і працоўняў.

Такое жыцьцё беларускага студэнта.

= Беларускі Студэнцкі Саюз афіцыяльна пачаў сваю дзейнасьць 22 кастрычніка інаўгурацыйным вечарам з рэфэратам с. І. Ярошкі: „Гісторыя беларускага студэнцкага руху“. Сябра Ярошка ў поўнасьці патрапіў прытарнавацца да часіны і падышоў да справы бесстаронна, кладучы націск на ідэалы і шляхі, якімі павінен ісьці кажны студэнт-беларус, нягледзячы на такія ці іншыя пагляды. Пасьля рэфэрату былі дэклямацыі, а на агульнае жаданьне прысутных паэта Максім Танк прачытаў адрывак сваей новай паэмы.

= 29.XI Саюз зладзіў сяброўскую гарбатку. Вясёлыя і поўныя гумару часіны перапляталіся з паважнымі прамовамі с. с. Старшыні Дасюкевіча, Шчорса, Папуцэвіча і калег прадстаўнікоў украінскага і літоўскага студэнцтва ў Вільні, якія ў сваіх мовах жадалі нам удачы ў працы для свайго народу, а так-жа падчыркнулі патрэбу далейшага блізкога сужыцьця беларускага, украінскага і літоўскага студэнцтва.

= 5.XI адбылася таварыская вечарына са скокамі сяброў Саюзу.

= 19.XI.38 г. адбыўся ў БСС дыскусыйны вечар аб беларускіх студэнцкіх часапісах, разпачаты ўступным словам с. І. Ярошкі. Дыскусыя была жывая. Выглядала, што с. Ярошка і пара ягоных аднадумцаў фальшыва разумеюць еднасьць у сэнсе нейкага гітлероўскага „Gleichschaltung“, і хацелі-б нарастаючыя інтэлектуальныя сілы беларускай студэнцкай моладзі „сканалізаваць“ у нейкі вузкі, цесны роў. Наш пагляд на гэта: хай беларускае жыцьцё (ня толькі студэнцкае) плыве шырокай, якнайшырэйшай ракой. Калі толькі яно будзе плысьці ў вадным кірунку — згодным з інтарэсамі беларускага народу, — шкоды ад гэтага ніколі ня будзе, а толькі карысьць.

= 26.XI.38 г. у БСС паэта М. Танк прачытаў рэфэрат аб стане сучаснай беларускай літаратуры. Пасьля рэфэрату была жывая дыскусыя.

= 27.XI.38 г. БСС арганізаваў вечар літоўскай літаратуры, на якім інфармацыйны рэфэрат прачытала літоўская паэтка О. Міцютэ. Пасьля рэфэрату чыталіся вершы літоўскіх паэтаў у перакладах на беларускую мову М. Танка, А. Бярозкі і інш.

= У пачатку сьнежня с. г. вышаў № 2 часапісу „25 Сакавіка“, каторы выдае клерыкальна настроеная група беларускіх студэнтаў, што назвала сябе „Маладымі адраджэнцамі“.

= Другой беларускай студэнцкай арганізацыяй на віленскім унівэрсытэце, паза Беларускім Студэнцкім Саюзам, ёсьць Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы. Мае яна характар чыста навуковы. Свой новы акадэмічны год гэтае Т-ва распачало 20 лістапада навуковай зборкай. Зборку адчыніў віцэстаршыня Т-ва с. М. Смаршчок кароткім, але зьмястоўным уступным словам аб мэтах і працы Т-ва. Пасьля гэтага Др Я. Станкевіч прачытаў рэфэрат „Гісторыя беларускага языка“, у якім разгледзіў вонкавае разьвіцьцё беларускай мовы пачынаючы ад ейных нарадзінаў, ажно да сяньняшняга дня.

= 4.XII.38 г. адбылася другая навуковая зборка, на якой мгр М. Шкялёнак гаварыў аб розных навуковых мэтадах гісторыі ў вадносінах да прадмету гісторыі Беларусі.

= 10.XII.38 г. БСС арганізаваў вялікі канцэрт з удзелам выдатнага беларускага опэровага тэнара Міхала Забэйды-Суміцкага і беларускага студэнцкага Хору пад кіраўніцтвам ведамага дырыгента Рыгора Шырмы. У праграме хору былі новыя гарманізацыі беларускіх народных песьняў украінскіх композытараў: праф. А. Кошыца і М. Гайворонськага. М. Забэйда-Суміцкі пяяў творы Моцарта, Бэтговэна, Манюшкі, Шымкуса і многа беларускіх песьняў як народных, так і компонаваных. Канцэрт, — нягледзячы на вялікія труднасьці з пазваленьнем, — удаўся якнайлепей. У вялікай унівэрсытэцкай салі Сьнядэцкіх сабралася больш поўтысячы народу. З асаблівым энтузыязмам, доўгімі, бурнымі воплескамі, прыймала саля беларускія песьні ў выкананьні Забэйды-Суміцкага.

Трэба зацеміць, што з гэтым канцэртам зьбягаецца 15-лецьце плоднай працы гр. Рыгора Шырмы на беларускай музычнай ніве.

= З Міжнароднай Студэнцкай Арганізацыі (т. зв. CIE), на прапазыцыю і пад націскам польскага прадстаўніцтва і пры ціхой згодзе савецкага, было выключанае беларускае і ўкраінскае студэнцтва. Беларусом і ўкраінцам сказалі, што яны будуць магчы паступіць у CIE ізноў тады, як будуць мець сваю дзяржаву...

## *ЗАЦЕМКІ*

У № 28 „Хрысьціянскай Думкі“ 10.X.38 г. В. Адважны вылівае свой „талент“ у чародным „шэдэўры“ — казцы „Бычок“. Між іншымі, знаходзім там і такія нявыбрэднага смаку „пэрлы“ паэзыі, як сказ „і ў нас растуць студэнты, як цяляты“...

Духоўную „далікатнасьць“ В. Адважнага ў падборы слоў даўно ведаем, але ўсёжтакі можа паважаны паэта быў ласкаў у будучыні сваей расстроенай лірай не чапаць добрага студэнцкага імені. Беларускае-ж студэнцтва бярэ вельмі дзейнае і ахвярнае ўчасьце ў культурна - грамадзкім жыцьці беларускага народу; бадайшто німа ніводнага беларускага часапісу, ці арганізацыі, дзе-б не працавалі беларуск. студэнты. Вялікая работа (у меру магчымасьцяў сучаснага палажэньня) вядзецца і ў роднай вёсцы. А калі адзінкі ломяцца і прападаюць духова, дык гэта нічога не гавора аб усім беларускім студэнцтве, бо падобныя рэчы здараюцца ўсюды. Калі-ж Адважны хоча палюбавацца „бычынымі“ тэмамі, як „карк згрубеў“, ці „жывот як мех абвіс“, дык хай лепей, — грамадзянству на карысьць, а сваей музе на пажытак, — зьверне ўвагу перадусім на сваіх-жа таварышоў [redacted] Там такі багаты матар'ял.

**„НОВУЮ ЗЬМЕНУ“** РЭДАГУЕ ГРУПА СТУДЭНТАЎ, СЯБРОЎ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦКАГА САЮЗУ Ў ВІЛЬНІ. УСЯКІЯ МАТАР'ЯЛЫ ДЛЯ НАШАГА ЧАСАПІСУ ПРОСІМ КІРАВАЦЬ НА АДРЭС „БЕЛАРУСКАГА ЛЕТАПІСУ“, З ЗАЗНАЧЭНЬНЕМ: ДЛЯ **„НОВАЙ ЗЬМЕНЫ“**.

*РЭДАКЦЫЙНАЯ ДРУЖЫНА „НОВАЙ ЗЬМЕНЫ“*

МАКСІМ ТАНК

## У ДАРОГУ

*З паэмы „Сілаш Істома"*

Над кучаравым багуньнікам вецер калышацца п'яны.
Імжыць над стагамі зялёна-балотняя сінь.
З крыльляў страсаючы
сонца вячэрняе,
стада чыранак
Шыпаўкай ціхай плыве.
Недзе далёка ласі
плёскаюць звонкай вадой броду мінаючы выган.
Кругом камары талакою начлежнай зьвіняць.
Капаюць
сонныя зоры
ў іржавы, атоплены выгар.
Чутка Сьцяпан прыглядаецца ў цёмны хмызьняк.
Сам на балоце, а думамі блудзіць у хаце:
— Недзе зьбіраюцца дзеці ў дарогу — далёкі край;
хворага сына калыша нявестка, а маці
топае вечна ля печы. Весяла дровы гараць,
цёплым сьвятлом заліваючы шыбы і сьцены...
Пухне на нізкіх крыжох з жытняй разчынай дзяжа.
Асірацеюць палосы аўсу, залатога ячменю.
Некаму-ж трэба іх будзе, хоць здратаваныя, жаць...
Ціха...
Ля сьцежкі зашастаў алешнік абапал.
Выйшаў памалу лось стары на вадапой.
Піў ён, і доўга дыхалі мокрыя храпы
на зорнае неба, што ў ніз адплывала ракой.
— Глёту ня ўсыпаў... — успомніў Сьцяпан, і з пасьпехам
ускінуў жвіроўку, плячом прысланіўся да пня...
Глуха за сіняю гацьцю грому далёкага рэхам
фронт адазваўся...
Настаражыўся, падняў
лось галаву ў расахатай кароне і ветрыў,
ветрыў і слухаў...
Аж выстрал раптоўны, сухі,
спудзіў, наосьлеп пагнаўшы ў імшарныя нетры,
дзе белай паводкай імгла залівала стагі.

Сьвяжэла. Сьцяпан ахінуўся жакетам кароткім.
Высака Сітца было, калі выйшаў на буй.
Чуваць у суседа ня спалі; за рэдкім замётам
моладзь у пуні строіла жарты-гульбу.
— Спаць-бы ішлі, сена шкада маладога!..
Сьцішыліся, зарыліся недзе на міг галасы.
Посьле за плечамі чуў сенам пахучы рогат.
На вішнях ўжо сьпелі паўночныя каплі расы.

Ляжачага ў прыўне сон доўга Сьцяпана ня хмарыў.
Чуў у перарывах ціхага шэлесту ліп,
як шэпча Старая малітвы на нарах,
і манатонны калыскі бярозавай скрып.
Скрып гэты часам здаваўся напевам абозаў,
бежанцаў, раненых на бездарожжы калюг...
бачыў расстайныя сосны, бярозы, бярозы...
і думаў... пра асірацелую думаў зямлю.

Вёска асьверамі перш пачынала будзіцца.
Стужкамі дыму вярхі каміноў зацьвілі.
Раніцы шум - сырадой бабы цадзілі з дайніцаў;
рагамі па выгане сонца каровы нясьлі.
Сьцяпан ля ваза калёсы падмазваў, топаў.
Прынёс усю упраж: хамут, падсядзёлак, дуга.
Ужо дыхалі хаты вясковыя хлебам і кропам,
калі пачаў у ваглоблі каня запрагаць.
Конь цёрся, ад аваднёў бараніўся і фыркаў.
Сыйшліся суседзі: Язэп, Пераброд і Юстын...
Хто ў шапцы салдацкай, хто ў зрэбнай кашулі з біркай,
сядзелі, стаялі плячмі падпіраючы тын.
Бяду сваю кожны з памежнай калосьсямі мерыў, —
ў каго пакалена, ў каго і за плечы вышэй.
Кудахталі куры за кладнёй на саломе. Шэрым
натоўпам, з хатомкамі выпаўзьлі бабы з сяней.
— Ты мо' засьцелеш кашэль, і садзіся, Раіна!
Села нявестка, грудзьмі дзіцяці ўсьцішаючы плач.
Сьцяпан усё топаў, лейцы пяньковыя ўскінуў,
другіх падганяў, а і сам не сьпяшыў выяжджаць.
— Ну, едзім!
— Не забывайце! Пішыце!..
Салдатка Марыля
нѐхаця ўсхліпнула, вочы тручы падалом
і па прывычцы, як па нябожчыку загаласіла;
ды змоўкла: ня злазячы з возу Сьцяпан пагразіў пугаў'ём.
Ціха занылі ў утулках драўляныя восі.
Ліецца пясок паміж доўгімі пальцамі сьпіц.
І разьвярнуліся губкамі жоўтага лёну, ячменю, палосы
на ўсход — аж да блудзячых хмараў,
на захад — да лесу граніц.
Як стада валоў — на папары каменьне. Рэдкія грушы
хіляцца нізка — зялёныя жнеі ў дабры.
І тонуць асьверы,
пярэплаты,
рогі апушын,
за пылам дарожным, за плечамі Лысай Гары.

Шэрым руччом з навою калёс разматаўся гасьцінец,
плыве па узгорках з прытокамі польных дарог
і тропаў глухіх, невядомых, і сьцежак нізінных,
дзе сьцеле макрыца зялёна-сярэбраны мох.
Адны з іх нясуць перазвон каласянага поля
і жніўныя песьні з іх усхваляванай тугой,

і хварбы пагоднага неба, палос, надазёрных аколіц,
і гоман - шум лесу пахучы жывіцай-смалой.
Другія нясуць успаміны дзяцінства, сустрэчаў,
і звонкіх вясьняных, глухіх верасьнёвых начэй,
калі адклікаецца толькі на шолах атавы надрэчнай,
калышучы крыльлямі зоры асеньнія, стада гусей...
Усё гэта бурымі хвалямі спаленай гліны,
падзолу, пяску, уцякае з-пад сонных калёс...
І рэхам трывожным сухія зьвіняць каляіны,
і нізка,
ад хмараў асеўшых,
зьвісае бярозаў гальлё.

## ГІСТОРЫЯ КУЛЬТУРЫ

# ВЕК КАМЕНЯ

У гэтую пару вялікіх зьменаў на паверхні Зямлі, калі рос і фармаваўся чалавек, расла і разьвівалася разам з ім і людзкая культура. Чалавек быў ня толькі сьведкам гэтых зьменаў, але пакінуў нам і сьляды сваёй працы ў тыя далёкія часы. Раскопкі, што рабіліся і робяцца па ўсім сьвеце, далі бязьлічны матар'ял для высьвятленьня жыцьця і працы першых людзей. Прылады да працы, аружжа, мастацкія вырабы і аздобы — усё гэта сьведчыць ня толькі аб працы чалавека, але і аб тым, як гэтая праца мянялася і як мянялася самое жыцьцё. Зразумела, што ад даўнейшых часоў асталося менш рэчаў, чым ад пазьнейшых. Магчыма, што з самога пачатку ўсе прылады і аружжа чалавек рабіў толькі з дрэва і яны проста пагнілі. Затое рэчы, зробленыя з каменя і мэталяў, захаваліся.

Каменьні з сьлядамі апрацоўкі іх чалавечымі рукамі, былі знойдзены ў больш старых слаёх зямлі, чым тыя, у якіх знайшлі гайдэльбэрскую сківіцу. Але адносна гэтых, так званых *эолітаў,* думкі вучоных дзеляцца, і некаторыя лічаць іх вынікам працы не чалавека, а прыроды. Затое, пачынаючы ад II Міжледавіковай эпохі, г. з. ад часоў жыцьця гайдэльбэрскага чалавека, усе каменныя рэчы, маючыя сьляды апрацоўкі іх чалавечымі рукамі, ня выклікаюць у гэтым сэнсе ніякіх спрэчак між вучонымі.

Рэчы з мэталяў (бронзы, жалеза, сталі і г. д.) чалавек пачаў вырабляць адносна зусім нядаўна — усяго якіх 7.000 гадоў таму назад. Да гэтага часу ён ведаў рэчы толькі з каменя. Сотні тысяч гадоў чалавек працаваў толькі каменнымі прыладамі, цярпліва апрацоўваючы моцны крэмень, каб надаць яму выгляд сякеры, нажа, скрабка, (скоблі) сьвідра і т. п. Гэта быў *Век каменя.*

**Палеолітычны век.** Да канца апошняе Ледавіковае эпохі, г. з. да пачатку Пасьляледавіковае, чалавек нават ня ўмеў шліфаваць або паліраваць каменя. Ён проста браў краменны кругляк і другім каменем яго абіваў або абчосываў. Таму і ўвесь час да паліраванага каменя завецца векам абіванага каменя або *Палеолітычным векам* (старакаменны век).

Спачатку чалавек, *абіваючы крамянны кругляк* і завойстрываючы яго з аднаго канца, атрымліваў быццам *каменную сякеру*, якую ў часе працы проста трымаў за тупы канец (за абух) рукой, бо ня ўмеў тады прывязываць яе да тапарышча. Гэта была галоўная прылада гайдэльбэрскага чалавека, якая служыла яму і за сякеру, і за пілу, і за нож. Адшчэпкамі ад крэменя ён карыстаўся яшчэ мала. Толькі некаторыя з іх, найбольш падыходзячыя, ён завойстрываў, абіваючы іх маленькім каменем з аднаго ці з двух бакоў, і атрымліваў скрабкі (скоблі), якімі ачышчаў скуры зьвяроў ад мяса і сала, або апрацоўваў драўляную палку. Некаторыя з адшчэпкаў ужываў ён і як сьвідры. Але наагул тады яшчэ найважнейшым было для чалавека ядро крэменя, — г. з. сякера, — вялікая і цяжкая.

Міналі адзін за другім дзесяткі тысячагодзьдзяў, а чалавек ня толькі не ўзбагаціў сваю бедную снасьць новымі прыладамі, але нават амаль не зьмяніў самой тэхнікі вырабу гэтых прыладаў. Толькі пасьля якіх 200.000 гадоў нэандэртальскі чалавек пачынае *сьведама шчапаць ад крамяннога кругляка адшчэпкі* патрэбнай формы, і робіць з іх прылады працы. Ужо ня грубое, цяжкое ядро зьяўляецца галоўным матар'ялам для прыладаў, а куды цянейшыя і лягчэйшыя адшчэпкі. Чалавек іх старанна апрацоўвае і нават надае ім акуратную трыкутную ці ліставідную форму. Сякера стала лягчэйшаю і рабілася часам таксама з адшчэпку. Ножавідныя даўгія адшчэпкі крэменя былі пілою і нажом; меншыя, трыкутныя, служылі аружжам. Наагул, усе прылады таго часу рабіліся меншымі і лягчэйшымі. Відаць, што нэандэртальскі чалавек імкнуўся надаць прыладам мастацкі выгляд, і тады напэўна былі ўжо адумысловыя майстры, што займаліся абрабляньнем каменя.

Нарэшце ў часы кроманьёнскага чалавека, пачынае панаваць, такзваная, *„шчапаная" тэхніка апрацоўкі каменя.* Патрэбы жыцьця вымагалі яшчэ меншых адшчэпкаў крэменя, і чалавек пачаў кавалкам моцнага аленьняга рага гэтыя адшчэпкі шчапаць ад паверхні разьбітага каменя. Атрымлівалася шмат дробных (1 — 2 сантым.), войстрых і тонкіх, як шкло, адшчэпкаў (мікралітаў). Новых прыладаў з каменя чалавек тады ня прыдумаў; аставаліся тыя самыя — сякера, піла, нож, скрабок і сьвідра; але яны сталі яшчэ меншыя і зграбнейшыя. Навіной зьяўляюцца *прылады з рага і касьці.* З таго часу захавалася найбольш такіх рэчаў з касьці: кінжалы, даўжыні каля 30 сант., круглыя або ножавідныя; далоты, шылы, голкі з дзюркамі; лапаткі для разгладжываньня швоў на скурах; гузікі, круглыя войстрыя наканечнікі для кап'я (дзіды), у аснове якіх рабіліся шчэліны, куды заганялася дрэўца; гарпуны — войстрыя ножавідныя наканечнікі, каторыя мелі з аднаго ці з двух бакоў зубцы, накіраваныя назад. Усе гэтыя рэчы чалавек рабіў памастацку, пры помачы каменных адшчэпкаў — мікралітаў.

З гэтага агляду разьвіцьця тэхнікі абрабляньня каменных прылад за час Палеолітычнага веку, можна ўявіць, якімі страшэнна павольнымі крокамі пасоўвалася ў тыя часы наперад культура. Патрэбны былі сотні тысяч гадоў толькі на тое, каб чалавек дадумаўся да ўжываньня касьці для вырабу прыладаў і аружжа. Але з гэтым бедным, скромным запасам каменных і касьцяных рэчаў ёнператрываў наступы лёду, змагаўся з дзікімі зьвярамі; крок за крокам падымаўся вышэй сваім слабым розумам.

Як-жа жылі людзі ў тыя далёкія часы?

Чалавек тады ня ведаў яшчэ земляробства, ня меў хатніх жывё-

лаў. *Займаўся ён толькі паляваньнем, быў толькі паляўнічом.* Усе яго думкі былі накіраваны толькі на тое, як дабываць ежу. Захаваць мяса надоўга ён ня ўмеў. У выпадку ўдачы, наядаўся колькі мог вытрымаць ягоны жывот. А калі паляваньне было няўдалае — чалавек еў усё, што можна есьці: розныя дзікія плады, ягады, карэньні, яйкі птушак і інш. Аб „заўтрашнім дні“ ён таксама ня думаў, хаця забіваў сваёй дубінаю або каменем, загнаўшы ў яму, нават сланёў і насарогаў. Справа ў тым, што спачатку чалавек *ня ведаў наагул агня*, і таму ўсё еў сырым, не гатаваным. Нават пасьля, калі ён ужо пазнаёміўся з ужываньнем агню, чалавек карыстаўся ім толькі як аружжам проціў зьвяроў; ён іх пудзіў палаючымі смалякамі, калі яны, асабліва ўначы, нападалі на ягонае жыльлё.



Мамант — жыхар Беларусі ў век каменя

Жылі тады людзі пераважна сем'ямі на берагох рэк і азёраў, бо, папершае, яны ня мелі тады яшчэ начыньня (судзіны) для захаваньня вады, а падругое — вада прыцягала зьвяроў і птушак, якія былі галоўнай ежай чалавека. Жыльлём у цёплую пару былі спачатку навісшыя скалы і крутыя берагі, дзе чалавек хаваўся ад дожджу і сонца. Потым ён пачаў сабе будаваць шалашы на высокіх дрэвах, накрываючы іх галінамі і травою; а яшчэ пазьней навучыўся іх ставіць на зямлі і накрываць скурамі зьвяроў. У сьцюдзёную-ж Ледавіковую эпоху *нэандэртальскі чалавек хаваўся ад холаду пераважна ў пячорах,* дзеля таго і людзей таго часу называюць часта пячорнымі людзьмі, або *троглёдытамі.* Але ў пячорах была такая сырасьць, што нават медзьвядзі, што ў іх жылі, хварэлі на рэўматызм, і толькі дзякуючы таму, што чалавек у гэны час пачаў карыстацца агнём, можна было нагрэць да таго, каб яны былі больш-менш годныя для жыцьця. Наагул, трэба адзначыць, што агонь быў адной з найважнейшых здабычаў тагачаснага чалавека. Як ён з ім пазнаёміўся? Што ён разумеў пад ім? Магчыма, што маланка запаліла лес і ён, уцёкшы спачатку ў вялікім страху, пасьля вярнуўся і пабачыў, што маленькі агонь зусім ня страшны „зьвер“ і „злавіўшы“ яго на канец сука прынёс да свайго шалаша, дзе пачаў „карміць“ травою і галінкамі. Магчыма, што ў часе яго працы над крэменем, іскра запаліла сухі мох. Як-бы ня было — чалавек пазнаёміўся з агнём і пачаў сам яго разпаліваць. Але таму, што высякаць агонь з крэменя ці дрэва было цяжка, а дроў было даволі, то агонь ніколі не гасіўся. Вось-жа, дзякуючы агню, нэандэртальскі чалавек ня толькі мог сьмялей змагацца з страшнымі зьвярамі, але і лягчэй пераносіць холад і ледавіковыя эпохі, жывучы ў аграваных пячорах. Аднак пячоры служылі прытулкам таксама і для зьвяроў, пераважна медзьвядзёў і львоў. Таму чалавеку прыходзілася часта адваёўваць сабе жыльлё ад гэтых чатыраногіх гаспадароў. У канцы Палеолітычнага веку людзі жылі ўжо большымі грама-

дамі, іхнія стаянкі мелі ўжо дзесяткі шалашоў, разьмешчаных наваколь вогнішча. Аднак стаянка доўга на адным мейсцы не затрымлівалася: як толькі ў бліжэйшай ваколіцы мèняла зьвяроў—людзі складалі свой невялікі скарб на плечы і йшлі шукаць новага мейсца, больш багатага зьвярынай і птушкамі. *Чалавек-паляўнік быў вечным вандроўнікам-валацугай.*

Вопраткай гайдэльбэрскі чалавек карыстаўся надта мала, бо ў цёплым клімаце яна была яму мала патрэбна. Толькі ў халодную пару году ён *прыкрываўся зьвярынымі скурамі,* а наагул хадзіў голы. Затое нэандэрталец ужо больш мусеў карыстацца вопраткай, якую ён рабіў таксама з скур зьвяроў, зшываючы іх жыламі, або зашпіліваючы кавалкам касьці. Скураную адзежу насілі і кроманьёнцы, але іхняя вопратка была ўжо з лепш апрацаваных мякчэйшых скур і была прыбраная ракаўкамі (чарупаўкамі), зубамі жывёлаў і інш. Мужчыны насілі на галаве скураную павязку або шапку, багата прыбраную ракаўкамі; на шыі шырокі нашыйнік з такіх самых ракавак і зубоў; на плячох накідку або плашч; ніжэй паясьніцы — кароткую скураную спадніцу, а на нагах кавалкі скуры, завязаныя рэмянямі. У жанчын і дзяцей была такая самая вопратка, толькі багацей прыбраная ракаўкамі і зубамі. Наагул у чалавека надта рана зьявіліся *нахілы да аздабляньня.* Яшчэ нэандэртальскі чалавек насіў нашыйнікі і бранзалеты на нагах і на руках. Прасьвідраваўшы крамянным сьвідрам дзірачкі ў прыгожых ракаўках і ў зубох забітых вялікіх зьвяроў, чалавек нанізываў іх на сухажыльлі і прыбіраўся імі. Магчыма, што спачатку вопратка і аздобы азначалі прыналежнасьць да якой небудзь групы людзей, або вышэйшае становішча чалавека, напр. найбольш адважны паляўнік насіў, напаказ зубы забітага ім-жа медзьвядзя.

Рана чалавек пачаў выяўляць і свой нахіл да прыгожага наагул. Відаць, што людзі кроманьёнскай расы перанясьлі ў Эўропу *зачаткі мастацтва.* Спачатку гэта былі фігуры голых людзей, выразаныя ў скалах крамяннымі разцамі. Знойдзена некалькі такіх фігурак, вылепленых з гліны. Але хутка чалавек пачаў упрыгожываць малюнкамі і пячорныя сьцены. Цяпер толькі ў аднэй Францыі ёсьць больш 30 адкапаных пячораў з малюнкамі тагачасных людзей. Яны ўжо зроблены рукою запраўдных мастакоў. Рысункі зьвяроў — мамонта, пячорнага медзьвядзя і інш., надта добра і памастацку выразаны на грубым матар'яле пячор. Значна меней спатыкаецца малюнкаў птушак, рыб, расьлін. Малюнкі чалавека спатыкаюцца вельмі рэдка і судзячы па тым, як у прыраўнаньні да жывёлаў павярхоўна і няўважна яны выкананы, відаць, што *зьвяры для мастака мелі нейкую вышэйшую сьвятасьць.* Малюнкі гэтыя чалавек часта пакрываў фарбаю нейкага аднаго коляру, што сьведчыць аб тым, што фарбы тады ўжо былі ведамыя. Асабліва-ж чалавек любіў пакрываць малюнкамі касьцяныя рэчы: на ручках кінжалаў, на зашпільках (аплікох), нават на гузіках, ён старанна і памастацку вырэзываў галовы аленя, каня, казулі і інш. Цікава, што ні пячорнае, ні касьцянае мастацтва не рысавала якіх небудзь выдуманых істот ці ліній — чалавек яшчэ не дарос да фантазыі. Паступова, толькі ў канцы Палеолітычнага веку, вялікія малюнкі зьвяроў зьнікаюць. Мастак усю сваю здольнасьць пераносіць на косьці — *заместа малюнкаў, зьяўляецца арнамэнт* (рысунак з самых ліній і розных геомэтрычных фігураў).

Ня толькі мастацтва сьведчыць аб духовым жыцьці першых людзей. Нэандэрталец ужо *хаваў сваіх суродзічаў „палюдзку“,* і ад таго

часу народы Палеолітычнага веку прытрымліваліся цьвёрда ўстаноўленага спосабу хаваньня нябошчыкаў. Іх скорчывалі і зьвязывалі, або, радзей, пакідалі выпраставаных і клалі на попел ці на парахно чырвонай фарбы, выказываючы гэтым пашану да агня. Фарбаю часам абсыпалі зьверху і ўсяго нябошчыка. Падгалаву клалі скураную падушку з каменямі. Кавалкі каменя клалі на вочы. Побач з нябошчыкам клалі іхнія прылады працы, аздобы, вопратку, мяса, жывёлаў. Зьверху цела пакрывалі скураю, на якую накладалі галіны і каменьні. Усё гэта паказывае, што чалавек ужо тады *шанаваў нябошчыкаў* і верыў, што яны жывуць у загробным жыцьці і маюць патрэбу ў тых самых рэчах, якімі карысталіся пры жыцьці на зямлі. А гэта была *вера ў жыцьцё душы пасьля сьмерці*, г. зн. *нейкае першае рэлігійнае пачуцьцё*. Скуль-жа зьявілася гэтая вера ў загробнае жыцьцё? Якімі шляхамі прыйшоў чалавек да першага рэлігійнага пачуцьця? Шмат было ў тагачаснага чалавека незразумелага ў акружаючай яго прыродзе і ўсё ён стараўся як небудзь сабе вытлумачыць. Бачыў паляўнік напр. у сьне памёршага чалавека, які палюе на зьвяра, або грэецца каля агня — і ён думаў, што чалавек жыве і па сьмерці; але-ж цела яго ляжыць у пячоры, дзесьці далёка пад скураю і каменьнямі, знача — каля паляўніка жыве ягоны дух — душа. Бачыў ён, напр., што на кожным кроку яго спатыкаюць небясьпекі, бяда, няшчасьце, — і ён думаў, што нейкія няведамыя і нябачаныя зьвяры - ворагі насылаюць іх на яго. Таму ён шанаваў нябошчыкаў, таму ён часам намазаўшы твар фарбаю, або надзеўшы на галаву маску — скуру з галавы сарны, і накінуўшы на плечы яе скуру, пачынаў дзе небудзь у пячоры скакаць. Ён думаў, што гэтай „пераменай“ у сарну, можа якнебудзь выратуецца з усялякіх бед, скіне ўсе няшчасьці на сарну. Але наагул, астанкі Палеолітычнага веку не даюць магчымасьці ясна ўявіць сабе цалком духовы і маральны твар тагачасных людзей.

Ці ўжо жыў чалавек на нашых беларускіх землях у гэныя далёкія часы палеоліту, часы нешліфаванага каменя — аставалася доўга загадкай. І толькі адносна нядаўна беларускія вучоныя Ўсходняй Беларусі адкрылі ў нас цэлы рад стаянак першабытнага чалавека з пары шчапанага каменя. І так, напрыклад, вучоны Палікарповіч летам 1926 г. натрапіў каля вёскі Бердыж, Гомельскага вокругу, на стаянку палеолітычнага чалавека ў Беларусі. Палікарповіч знайшоў там сярод мамантавых касьцей некалькі крамянных адшчэпкаў і дзьве ножавідныя прылады. Пазьней было знойдзена яшчэ некалькі падобных мяйсцоў (каля Мозыра, у Смаленшчыне) і гэтым самым факт жыцьця людзей на нашай зямлі ўжо ў тую далёкую пару, быў сьцьверджаны аканчальна

Аглядаючыся назад на жыцьцё людзей Палеолітычнага веку, выдаецца адразу, што яно было такім бедным і такім жабрацкім, а сам чалавек-паляўнік такая бязрадная істота, жыўшая заўсёды ў страху перад магутнымі прыроднымі стыхіямі. Але папрабуйма ўявіць сабе і адчуць усю ягоную дзікую жывучасьць і энэргію — мы свой пагляд зьменім. Ня было ў паляўніка ні сабакі, ні каня, ні аружжа. Толькі дзіду мог ён кінуць на якіх 50 - 60 крокаў. Колькі натугаў трэба было, кабпадкрасьціся да асьцярожнага зьвяра! А як яму цяжка было выкапаць суком вялікую яму, каб злавіць маманта або насарога! Не, паляўнікі — людзі дужыя, упартыя, якія ня толькі падтрымлівалі, але й разьвівалі, — хай сабе вельмі паволі, — зачаткі культуры.

**Ул. Пігулеўскі**

# КАНЦЭРТ У ВІЛЬНІ

## 10 - XII - 1938

Такія ўжо насталі дні... Нейкі сход, акадэмія — для нас сьвята. А што казаць аб канцэрце, ды яшчэ з удзелам нашага Забэйды-Суміцкага. Так рэдка даводзіцца чуць сапраўдную беларускую песьню. Часам... праз „слухаўку“ даносіцца да нас з Варшавы прыемны, знаёмы тэнар. Але толькі часам. Вось таму можа мы так чакаем беларускага канцэрту, як вялікай урачыстасьці.

Пры касе, на калідоры — нябывалы сьціск і натоўп. Зразумела, найбольш прыйшло беларусоў. Але тут і там пачуеш і ўкраінцаў, і ліцьвіноў, і палякоў і жыдоў. Апынаешся ў напружанай, узвышанай духова грамадзе. І сам робішся нейкі сьвяточны, няштодзенны. Узбуджэньне яшчэ больш узрастае, калі на эстрадзе рознакалёрным букетам расхінаецца хор. Камэртон гр. Р. Шырмы апісывае некалькі крывых і — быццам з чарадзейных рук — паплыла песьня...

Яна ад жней на полі ў летняй сьпецы, яна з ціхіх лугоў і нізін, з беларускай вёскі — над калыскай даўгімі начамі, у сьцюжы, завеі, пры рабоце, у лясох і над рэчкамі складалася яна. Чулыя людзі, як скарб многацэнны, нясьлі, перахоўвалі яе. Песьня трапеча, узьнімаецца ўсё вышэй і вышэй, напаўняе па берагі салю. То ня песьня — то крыўда, жаль, адчай, гнеў! Крыштальна-чыстыя гукі ўліваюцца ў душу. І ўсе на момант анямелі, каб глыбей адчуць схаваны ў песьні сэнс хараства, каб напіцца з гэтай нявысыхаючай крыніцы. Гакая таёмная моц песьні.

Мы пачулі на канцэрце ў выкананьні хору зусім новыя песьні, апрацаваныя кампазытарамі ўкраінцамі — праф. Кошыцам і Гайворонськім. Прыемнай навінкай была кампазыцыя Гайворонськага „Спакойна дрэмле Нарач“ на словы М. Танка.

Бурныя воплескі спаткалі Забэйду-Суміцкага. Нас яшчэ здаецца ніхто, не дарыў такім сьпевам. Такім глыбокім, інтымным выражэньнем народнай душы. Гледзячы на сьпевака, атрымоўвалася ўражаньне, што ён забывае сябе, суцэльна жыве пачуцьцём, уложаным у песьню. Натхненьне сьпевака перадаецца мімаволі нам; мы ўвабіраем яго, мы чуем, як узбагачваецца і нашая душа. Можа асабліва яны, высокія тоны, хапаючыя за сэрца, змушаюць слухаць з стрыманым дыханьнем, каб быць так блізка да песьні.

І „Дудка“! Хто яе ўжо ня чуў? Але выкананьне „Дудкі“ Забэйды-Суміцкага — нешта непараўнальнае. Трэба быць верным сынам сваей зямлі, трэба самому „напіцца болю аб нядолі“, каб улажыць столькі пачуцьця ў словы „на чужой старане весяліла“... А колькі адценяў было ў кожным — „ух-я!“. І, здаецца, „просьценькая“ песьня...

— Мала! Мала! — бушавала саля і балькон. Ясна — нам заўсёды будзе мала такога сьпеву. Сьпявак вяртаўся і дадаткова пяяў некалькі песьняў, а між імі і „Лявоніху“. Без „Лявоніхі“ ужо ніяк не абыйсьціся...

Былі і кветкі. І гр. Р. Шырме, які, між іншым, 15 гадоў таму назад выступіў першы раз з хорам у м. Пружане, з гэтай-жа „Дудкай“. І нашаму Забэйдзе-Суміцкаму маленькая дзяўчынка ў нацыянальнай вопратцы ўручыла кветкі. Узрушаны сьпявак пацалаваў яе.

Канцэрт кончыўся. Усе радасныя, ажыўленыя. У кожнага на доўга астанецца глыбокае духовае ўзварушэньне. Такі канцэрт — гэта „зарад“ нацыянальнай бадзёрасьці. Ён не разьвеецца так хутка, ён пакіне сьлед у кожнага, хто ня глухі, хто можа пачуць. Бо такі сьпеў змушае разчыніць душу. Так сонца разчыняе чашачкі кветак.

# НАША ХРОНІКА

*** **Высяленьні.** Па загаду Віленскага Ваяводы п. Боцянскага, мусяць пакінуць Вільню ксяндзы беларусы: б. пасол Сойму ксёндз Адам Станкевіч і ксёндз Ул. Талочка. Дзеля таго, што Вільня знаходзіцца ў так званай прыгранічнай паласе, яны павінны да 28 сьнежня выехаць з Вільні. Непадпарадкаваньне гэтаму загаду можа выклікаць арышт і прымусовае высяленьне. Такі самы загад атрымаў і былы Старшыня Бел. Нац. К-ту ў Вільні інж. А. Клімовіч.

*** **Новае распараджэньне** ў справе дамаганьня роднай мовы ў школах выдаў Міністар Веравызнаньняў і Асьветы ў паразуменьні з Міністрам Нутраных Спраў дн. 15. XI. 38 (Dz. U. R. P. Nr. 94, poz. 687); касуецца адначасна падобнае-ж распараджэньне з 7. I. 1925 г. Паводле новага распараджэньня, складаць дэкларацыі ў справе зьмены мовы ў пачатковых школах можна толькі праз адзін месяц у годзе — у лістападзе. **Сёлета**, — выняткова, — **дэклярацыі з дамаганьнем роднай мовы ў школах можна складаць** ад 10 сьнежня 1938 г., **да 10 студзеня 1939 г.!** Дэклярацыі гэтыя, паводле новага распараджэньня, бацькі павінны складаць школьнаму інспэктару паадзіночку і безпасярэдна. Подпісы на дэклярацыях трэба сьцьвярджаць у натарыя, у валасьці, або ў старастве.

*** **Кампазытар М. О. Гайворонські** скомпанаваў на мяшаны хор дзьве беларускія песьні да слоў Максіма Танка: „Спакойна дрэмле Нарач“ і „Прайдуць гады“. Гэтыя композыцыі запачаткавалі новы кірунак у беларускай харавой літаратуры — кірунак свабоднай творчасьці,— распачата так патрэбная праца музычнага ілюстраваньня нашай паэзіі. Вялікая падзяка і чэсьць слаўнаму композытару.

*** **Композытар А. Кошыц** арранжаваў на мяшаны хор беларускую народную песьню— „Прыляцелі гусі“. І на гэты раз, як заўсёды, Вялікі Мастак падараваў для беларускай культуры новы дыямэнт сваей творчасьці.

*** **Язэп Драздовіч**, беларускі мастак і вельмі працавіты зьбіральнік нашай старасьвеччыны і этнографічных матар'ялаў, абыходзіў сёлета ў восені 50-лецьце свайго жыцьця. Як маляр, Язэп Драздовіч працаваў асабліва многа ў графіцы; займаецца таксама разьбою ў дрэве. Вельмі цэнныя ягоныя альбомы зарысовак этнографічных і зарысовак многіх замкаў Беларусі. Вялікую вартасьць маюць і багатыя зборы прадметаў старасьвеччыны, старанна сабранных з нашых замчышчаў і гарадзішчаў. Многа што з гэтай працы можам пабачыць у Беларускім Музэі ў Вільні. Ня чужая была мастаку і літаратурная ніва. Друкам вышла ягоная повесьць „Вар'ят без вар'яцтва і вялікая шышка“. Цяпер Язэп Драздовіч ходзіць па вёсках Дзісеншчыны і зарабляе на хлеб як вясковы вандроўны народны мастак.

*** **Вечар М. Танка ў Варшаве** адбыўся 29 кастрычніка с. г. Арганізавала вечар Беларускае Т-ва ў Варшаве. У праграме вечару: рэфэрат паэты аб сучаснай беларускай літаратуры і чытаньне сваіх твораў. Саля Т-ва была перапоўненая па берагі. Апрача беларускіх работнікаў і інтэлігенцыі, што жывуць у Варшаве, было многа на вечары прадстаўнікоў з польскіх, украінскіх і лі-

тоўскіх літаратурных і публіцыстычных кругоў. Буры воплескаў, якімі саля прыймала многія творы паэты, найлепш сьведчаць аб ўражаньні, якое зрабіў вечар як на сваіх, так і на лічных прысутных гасьцей.

⁂ **„Полымя“** — беларускі коопэратыўны аб'ездны тэатр у Беластоку не атрымаў канцэсыі. Прышоў у гэтай справе адмоўны адказ і з Міністэрства Нутраных Спраў. Арганізатары думаюць адклікацца яшчэ да Найвышэйшага Адміністрацыйнага Трыбуналу.

⁂ **Беларускага Т-ва Цьвярозасьці** таксама не зацьвердзілі. Статут гэтага антыалькагольнага Т-ва быў пададзены да легалізацыі ў Вільні яшчэ вясной. Закладчыкі зьвярнуліся яшчэ ў гэтай справе ў Міністэрства Нутраных Спраў.

⁂ **Рэфэрат аб хрысьціянстве ў Беларусі** прачытаў 13.XI.38 г. у Беларускім Навуковым Т-ве ў Вільні гр. С. Паўловіч.

⁂ **Сканфіскаваныя:** „Беларускі Фронт“ № 10 з 7 кастрычніка; „Шлях Моладзі“ № 21 з 7 кастрычніка; Камунікат № 8 Беларускага Народнага Аб'яднаньня — БНА. „Wiadomości Białoruskie“ № 10. „Chryścijanskaja Dumka“ № 32 з 19.XI.38. г.

⁂ **10-годзьдзе працы на літаратурнай ніве** паэты Міхася Машары мінае сёлета. У 1928 г. паэта выдаў свой першы зборнічак вершаў — „Малюнкі“.

⁂ **Беларусы ў Францыі** зьвярнуліся да беларускай эміграцыі на ўсім сьвеце з заклікам памагчы ў арганізаваньні сталага друкаванага эмігранцкага органу. Часапіс гэты мае выходзіць у Парыжы.

⁂ **У Чэхаславаччыне,** яшчэ вясной с. г., беларускі маляр-пэйзажыст Аркадзь Салаўёў даў у Празе выстаўку сваіх твораў. Чэская фаховая прэса вельмі высака ацаніла мастацкую творчасьць А. Салаўёва. Тэма ягоных абразоў, гэта прырода і краявіды Беларусі, у такім выглядзе, як яны захаваліся ў успамінах мастака з дзіцячых гадоў.

**ПРЫСЛАНАЕ:** Teodor Iljaszewicz. Drukarnia Domu Mamoniczów w Wilnie (1575—1622). Бач. 160. Вільня 1938.

## НАШАЯ ПОШТА

*Б—к К.* Вершы „Восень“, „Да вясковай моладзі“ — слабыя. Лепей удаўся „Хоць заглушаць“... хоць і ў гэтым мала вобразнасьці. Ён больш падобны да зрыфмаванай адозвы. Вершаў ня можна навучыцца пісаць, *можна толькі навучыцца — як ня трэба пісаць*, а і гэта ўжо будзе не малы крок наперад. Вельмі цэнныя Вашыя пісьмы - карэспандэнцыі; пішыце іх якнайчасьцей.

*Дубровіч А.* Матар'ялы атрымалі. Дзякуем за шчырае пісьмо; шкада толькі, што ня маем магчымасьці друкуючы шырэй выкарыстаць. Вершы пойдуць, з малымі папраўкамі, ў наступным нумары. Агулам Вашая творчасьць досыць ярка і арыгінальна зарысоўваецца сярод творчасьці нашага маладняка.

*Ск—ор М. каля Цырына:* Як на першы верш — дык вельмі добра. Пішыце далей; шырэйшы агляд дадзём у пісьме, як атрымаем больш матар'ялу. Надрукаваць тымчасам яшчэ не надрукуем.

*К—ніку К. каля Мядзела і таварышом:* За прывітаньні, пажаданьні і падпіску ў складчыну - дзякуем. Нашая нацыянальная і культурная справа залежыць як ад нас, так і ад Вас — сьведамага, дзейнага вясковага культурнага авангарду.

*Б—ед Р.* Апавяданьня Вашага ня маем. Яго ад нас забралі... Да друку нам яно не падходзіць.

*Задарожны, Францыя:* Для наступнага нумару чакаем абяцанага рэпартажу. Калі можаце, скіруйце на наш адрас „Пехатой па сьвеце“.

*В. Р. Прага:* Матар'ялы атрымалі, свае ўвагі аб іх вышлем пісьмом.

# ГЭЙ, ПАЕХАЎ СЫН ДАНІЛА

*Народная*

Moderato - risoluto.

Апр. М. О. ГАЙВОРОНСКІ




Ды ўжо Каця-ры-на
до--му свай-го!
Ды ўжо тва-я Каця-ры-на сва-ю
f
во-лю паня-ла:
па-за-еж-джы-ва-
ко-ні тва-е ва-ра-ны-я
allargando e dim.
ла.
па-за-еж---джы-ва-ла

## ЗЬМЕСТ






СКЛАДКІ: 3 зл. на год; 1 зл. 50 гр. на паўгода; асобны нумар 40 гр. Заграніцу ўдвая даражэй.

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Каралеўская вул. 3-8
Конто: Rozrachunek 91.

Redaktor-wydawca: FELIKS STECKIEWICZ Рэдактар-выдавец: Ф.СТЭЦКЕВІЧ

Druk. M. Bogatkiewicza i B. Trućko. Wilno, ul. Mickiewicza 22-a.